
Абрад на сцэне➔4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


XXI Асеннія сустрэчы➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 46 (3053) Год LIX | Беласток, 16 лістапада 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Ва ўсім Гайнаўскім павеце няма многа кандыдатаў на пасады бургамістраў і войтаў, але ёсць ад гэтага выключэнні. Найбольш кандыдатаў, бо ажно 5 асоб, спаборнічае за пасаду войта Гайнаўскай гміны. Па 3 асобы меціць у войты Чыжоўскай, Нарваўскай і Чаромхаўскай гмін. У Нараўчанскай, Белавежскай і Кляшчэлеўскай гмінах правячыя войты і бургамістр маюць толькі па адным контркандыдаце. Не маюць сапернікаў правячыя бургамістр Гайнаўкі і войт Дубіцкай гміны. А за 17 мандатаў павятовых радных Гайнаўскага павета спаборнічаюць 125 кандыдатаў.




разуменне Гайнаўская зямля»), Андрэй Шварц з Чыжык («Камітэт выбарчы — ПСЛ»), Марыюш Агейчык з Грудок («КВ Права і справядлівасць») і Матэвуш Дам'ян Гутоўскі з Белавежы («КВ Грамадзянская платформа РП»). У трэцяй акрузе, якая ахоплівае гміны Чаромха, Кляшчэлі і Дубічы-Царкоўныя (3 мандаты павятовых радных) паасобныя спіскі ўзначальваюць Мікола Міхалюк з Чаромхі («КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля»), Юры Васілюк з Кузавы («Камітэт выбарчы — ПСЛ») і Ян Станьчык са Ставішчаў («КВ Грамадзянская платформа РП»). «КВ Права і справядлівасць» не вылучыла сваіх кандыдатаў на павятовых радных у гэтай акрузе. У чацвёртай акрузе, якую складаюць Нараўчанская і Нарваўская гміны, таксама будуць выбраны 3 радныя. На чале спіскаў за мандат павятовага раднага змагаюцца віцэ-староста Гайнаўскага павета Андрэй Скепка з Новага Ляўкова («КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля»), Міраслаў Кульбацкі з Альхоўкі («Камітэт выбарчы — ПСЛ»), Крыстына Францішка Дрозд з Нараўкі («КВ Права і справядлівасць») і Давід Кучэўскі з Нарвы («КВ Грамадзянская платформа РП»).

# Самаўрадавыя выбары 2014 – Гайнаўскі павет

## У паасобных гмінах Гайнаўскага павета

У самой Гайнаўцы кандыдаты на радных будуць спаборнічаць ад імя 4 выбарчых камітэтаў. Выбары гарадскіх радных у Гайнаўцы не адбудуцца ў некалькіх акругах, так як было гэта 4 гады назад і раней. 21 радны горада Гайнаўкі будуць выбраны ў 21 акрузе. Члены партыі Грамадзянская платформа РП і яе прыхільнікі ідуць на выбары за мандат гарадскога раднага Гайнаўкі са спіска «КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля» і не вылучылі свайго кандыдата на бургамістра Гайнаўкі. Кандыдатаў на бургамістра Гайнаўкі няма таксама ад камітэтаў «Камітэт выбарчы — ПСЛ», «КВ Права і справядлівасць» і «КВВ Твая Гайнаўка». Адзіны кандыдат на пасаду бургамістра Гайнаўкі, правячы зараз бургамістр Ежы Сірак, гайнавянін, балаціруецца ад «КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля». Затое на папярэдніх самаўрадавых выбарах, калі правячы тады Гайнаўкай Анатоль Ахрыцюк не стартаваў у выбарчых гонках на пасаду градачальніка, было ажно 5 кандыдатаў.

У Дубіцкай гміне «КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля» запрапанавала цяперашняга войта, жыхара Гайнаўкі Лявона Малашэўскага ў якасці кандыдата на войта і няма ў яго канкурэнта. Затое ў Гайнаўскай гміне ёсць ажно 5 кандыдатаў на пасаду войта. Жыхар Гайнаўкі Міраслаў Аўксянцюк балаціруецца ад «КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля». Гайнавянка Галена Багроўская — кандыдат ад «КВВ Дом Гміны Гайнаўка». Жыхар Вялікіх Пасечнікаў Уладзімір Галёнка — кандыдат ад «КВ Грамадзянская платформа РП». Жыхарка Дубін Люцына Смактуновіч — кандыдат ад «КВВ Нашая будучыня». Жыхар Чыжык Андрэй Шварц — кандыдат ад «Камітэта выбарчага — ПСЛ». У Гайнаўскай гміне зарэгістраваных ажно 10 выбарчых камітэтаў, з таго ліку 5 камітэтаў вылучыла толькі па 1-2 кандыдатаў на раднага. Разам за 15 мандатаў радных змагаецца 60 кандыдатаў.

Па тры кандыдаты прэтэндуюць на пасады войтаў Чыжоўскай, Нарваўскай і Чаромхаўскай гмін. Контркандыдатамі правячага войта Чыжоўскай гміны, жыхара Бельска-Падляшскага Юрыя Васілюка, які балаціруецца ад «КВВ Нашая Гміна Чыжы» з'яўляюцца жыхарка Гайнаўкі Яўгенія Кандрацюк («КВВ Вырашайма супольна») і жыхар Беластока Міхал Кавальчук («КВ Малыя айчыны»). У Чыжоўскай гміне за 15 мандатаў гмінных радных змагаецца 41 кандыдат, чаго ў такой колькасці не было перад папярэднімі самаўрадавымі выбарамі. У Нарваўскай гміне за пасаду войта змагаюцца жыхарка Нарвы Эва Урбановіч (ад «КВВ Грамадзянская супольнасць — Нарва») і жыхар Нарвы Давід Кучэўскі (ад «КВВ Актыўная Нарва»), а кануранцыю ім складае адхілены нядаўна ад пасады войта жыхар Нарвы Андрэй Пляскові (ад «КВВ Нашая Гміна Нарва»). У гміне таксама многа кандыдатаў (44) на гмінных радных. У Чаромхаўскай гміне правячы войт і жыхар Чаромхі Ежы Шыкула балаціруецца як кандыдат на войта ад «КВВ Згода і развіццё», а жыхар Чаромхі Ежы Сцяхура ідзе на выбары войта ад «КВВ Лепшае заўтра Чаромхі». Былы войт гэтай гміны, жыхар Гайнаўкі Міхал Врублеўскі, які 4 гады назад перастаў быць войтам, змагаецца за пасаду войта ад «КВВ Чаромха-2014». У гэтай гміне многа, бо 57 кандыдатаў ад 9 выбарчых камітэтаў, змагаецца за 15 мандатаў гмінных радных.

Правячая бургамістр Кляшчэляў і жыхарка мястэчка Ірэна Негярэвіч (балаціруецца ад «КВВ Нашая Гміна Кляшчэлі»), змагаецца за пасаду бургамістра з былым бургамістрам Кляшчэляў Аляксандрам Сяліцкім, які таксама жыве ў Кляшчэлях (ад «КВВ Пажарнік»). У Белавежскай гміне — 2 кандыдаты на войта, абодва жыхары Белавежы: правячы войт Альберт Вальдэмар Літвіновіч (ад «КВВ Альберта Літвіновіча») і Гжэгаж Каспровіч (ад «КВВ Белавяжане»). У правячага Нараўчанскай гмінай, жыхара Нараўкі, войта Міколы Павільча («КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля»), контркандыдатам на пасаду войта з'яўляецца жыхар Семяноўкі Данель Аніскевіч (ад «КВВ Маладая Нараўка»).

## Кандыдаты на павятовых радных Гайнаўскага павета

У Гайнаўскім павеце 125 кандыдатаў спаборнічаюць за 17 мандатаў павятовых радных. Прадстаўляюць яны 4 выбарчыя камітэты. У самай вялікай акрузе, якая ахоплівае горад Гайнаўку, 63 кандыдаты змагаюцца за 8 мандатаў павятовых радных. Кандыдатамі на першых месцах спіска «КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля» ёсць гайнавяне Ежы Сірак, Анатоль Лапінскі, Галена Сапешка і Ала Грыц. Кандыдатамі ад «Камітэта Выбарчага — ПСЛ» на першых месцах апынуліся гайнавяне Анна Красько, Міраслаў Рамањюк, Анна Уршуля Дзвілеўская і Мікола Чурак. Кандыдатамі ад «КВ Права і справядлівасць» у пачатку спіска значацца Лех Ян Міхаляк, Ірэна Давідзюк, Анджэй Даўнаровіч і Анджэй Кольп. Ад «КВ Грамадзянская платформа РП» кандыдатамі на павятовых радных у пачатку спіску апынуліся гайнавяне Надзея Мажэна Драгун, Ежы Герман, Веслаў Ян Філікс і Віялета Ізабэля Янушкевіч. У другой акрузе, якая ахоплівае Гайнаўскую, Чыжоўскую і Белавежскую гміны (раднымі могуць стаць 3 асобы) кандыдатамі на павятовых радных з першых месцаў сваіх спікаў з'яўляюцца Сцяпан Садоўскі з Пасталова («КВВ Самаўрадавае паразуменне Гайнаўская зямля»), Андрэй Шварц з Чыжык...

## Кандыдаты ў Падляшскі соймік з Гайнаўскага, Бельскага і Сямятыцкага паветаў

У чацвёртай акрузе кандыдаты з Гайнаўскага, Бельскага і Сямятыцкага паветаў спаборнічаюць за мандаты 9 ваяводскіх радных, разам з кандыдатамі з Беластоцкага і Высока-Мазавецкага паветаў. Зараз кандыдаты на ваяводскіх радных з самой Гайнаўкі балаціруюцца на першых месцах на 3 спісках у гэтай акрузе — гайнаўскі староста Уладзімір Пятрочук на спіску «КВВ СЛД Лявіца супольна», Генрык Лукашэвіч на спіску «КВ Права і справядлівасць» і Міраслаў Скепка на спіску «КВ Твой рух». Марцін Заблудоўскі з Бельска-Падляшскага адкрывае спісак «КВВ Нацыянальны рух». Мікола Яноўскі з Пераходаў (Гайнаўская гміна) стартуе з другога месца на спіску кандыдатаў ад «Камітэта выбарчага — ПСЛ». Дарота Кэндра-Пташынская з вёскі Якубоўскае (гміна Боцькі) балаціруецца на другім месцы на спіску кандыдатаў «КВ Права і справядлівасць». Адам Пётр Моічэк з Сямятыч апынуўся на другім месцы спіска «КВ Самаабарона». Сямятыцкі староста Мікола Мантур з Сямятыч ёсць на трэцім месцы на спіску кандыдатаў ад «КВ Грамадзянская платформа РП». Валянцін Карыцкі з Праневіч (Бельская гміна) балаціруецца з трэцяга месца на спіску «Камітэт выбарчы — ПСЛ». Адметным з'яўляецца спісак «КВ Непасрэдная дэмакратыя», на якім у чацвёртай акрузе больш кандыдатаў на ваяводскіх радных складаюць жыхары Дубін (Гайнаўская гміна). Балаціруюцца яны ад трэцяга да шостага месца, а на чале і, на трэцім месцы значыцца Яцак Парцяк.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Фальшывыя „правыя”

Часам у нашым сяброўскім асяродку мы пачынаем размовы аб „правых” і „левых” у палітыцы. Апошнім часам прыходзім да высновы, што гэты паліталагічны падзел дастаткова ўмоўны, а можа нават і штучны. Прынамсі, калі гутарка ідзе пра пакаленне сучасных палітыкаў, гэты падзел, падаецца, безнадзейна састарэў.

Цікава паводле якіх крытэрыяў запісалі цяперашнія палітолагі найбольш вядомага і адыёзнага палітыка пачатку дваццаць першага стагоддзя Уладзіміра Пуціна ў „правыя”? Менавіта так яго трактуюць амаль усе на Захадзе. Зазначым, што традыцыйна правымі называюць прадстаўнікоў кансерватыўнай плыні. Пуцін жа імкнецца перадзяліць усю Еўропу, усё паламаць.

Асоба Уладзіміра Пуціна, гэткага самадзержца Мікалая Першага і чэкіста Дзяржынскага ў адным флаконе, дакладней персаніфікаваная на ім палітыка — гэткая лакмусавая паперка для ўсіх еўрапейскіх палітыкаў. І што ж мы тут бачым і чуем. Я спярша вушам і вачам сваім ня верыў. Але ж калі пачалі выказвацца адзін за адным... Вось лідарка французскага Нацыянальнага фронту Мары Ле Пэн спярша пахваліла сірыйскага дыктатара Башара Асада, а неўзабаве выказала шчырыя сімпатыі да маскоўскага ўладара. Маўляў, такая палітыка яе захапляе і даўно пара пачаць федэралізацыю Украіны. Дык можа і федэралізацыю Францыі пара пачаць, там зараз вельмі розныя рэгіёны сталі — стварыць Мараканскую Народную Рэспубліку, Алжырскую Народную Рэспубліку... І чым такая „правая” мадам Ле Пэн лепшая за „левага” Францua Аланда, які ўсё імкнецца прадаваць свае „Містралі” Маскве, хоць часам няёмка яму беднаму.

А вось нібыта ўльтраправы кіраўнік Венгрыі Віктар Орбан. У многіх патрыётаў розных краін ён доўга выклікаў сімпатыі, ведучы рэдкую на сёння сярод еўрасаюзных дзяржаў нацыянальную палітыку. Але сапраўдны нацыяналіст — не проста патрыёт, гэта чалавек, які не толькі любіць і шануе сваё, але і паважае аналагічнае чужое. Здавалася б, сённяшняя Украіна, якая імкнецца да справядлівага грамадства, сапраўднай незалежнасці і нацыянальнага адраджэння — гэта якраз надзея Еўропы. Тое, што трэба вітаць. Але не туды тое — Орбан таксама выступіў у падтрымку імперскай палітыкі Пуціна. Орбан нарадзіўся, канешне, пасля 1956 года, але што такое расійскія танкі ў Будапешце павінен ведаць! Што гэта — „рэалпалітык” ці проста абмежаванасць мазгоў?! І чым так „правы” Орбан адрозніваецца ад „левага” прэзідэнта Чэхіі Мілаша Земана?! Той таксама сакавіта выказаў ухваленне палітыкі Пуціна па расійскай акупацыі Крыма і турэмным пераследзе іншадумцаў у самой Расіі. Няўжо за такую Чэхію паліў сябе Ян Палах, выходзілі на вуліцы захопленай савецкімі войскамі Прагі тысячы іншых чэхаў? Лідар крымскіх татараў Мустафа Джамілёў адседзеў у савецкай турме тры гады за выступ супраць акупацыі Чэхаславаччыны ў 1968 годзе. А Земан ухваляе цяперашнюю анексію Крыма, дзе карэннаму насельніцтву — татарам становіцца зноў немагчыма жыць.

То можа і добра, што Шатландыя не дамаглася незалежнасці ў выніку рэферэндуму. Хоць яе міністр, „правы” лідар Алекс Сальманд пайшоў у адстаўку. Гэты таксама становіцца гудзеў у дуду пра сепаратызм на ўсходзе Украіны. Разабрацца ў сітуацыі ім бракуе ні то мазгоў, ці то сумлення. Пра такіх „правых” як італьянскі Берлусконі ўжо і казаць сорамна. „Друг Сільвіё” — шчыры кампаньён маскоўскага ўладара. Мафія, як кажуць, сваіх любіць.

З адваротнага боку і прывесці няма каго. Няма новых Гавелаў у Еўропе. Здаецца, што апошнім правым палітыкам кантынента быў прэзідэнт Польшчы Лех Качынскі. Ён то цудоўна разумеў, што такое сучасны маскоўскі рэжым, не маўчаў, а таксама імкнуўся мець свой важкі голас у еўрасаюзнай знешняй і ўнутранай палітыцы. Таму быў так не даспадобы і Маскве, і Бруселю...

Міжволі прыходзіш да высновы, што ўсе гэтыя слоўныя паліталагічныя найменні, падзелы на „левых” і правых” — нішто, альбо нават горш — моўнае шалупінне, якое хавае сапраўдную сутнасць канкрэтнай асобы ці з'явы. Бо ёсць толькі адзін беспамылковы крытэрый: „Па іх пладах пазнаеце іх”...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Я жыву
## ў Нарваўскай гміне



Калі я пішу гэтыя словы (у нядзелю пасля поўдня), працягваецца інтэнсіўны артылерыйскі агонь у Данецку, у бастыёне так званых прарасійскіх сепаратыстаў. Разгарэўся ён у 2 гадзіну ночы. Пачалі... яны. Гэта не мае значэння хто. Гінуць людзі. Гэта першая такая перастрэлка ад 5 верасня, калі ўстанавілі перамір'е паміж варагуючымі бакамі. Яго ўмовы таксама прыняла Расія. Тым не менш, нягледзячы на перамір'е, дулы варожых гармат ніколі не астывалі. І сёння зноў награвающа да чырвонага. Кажуць, ніхто гэтага не хацеў. Ні ўкраінцы, адстойваючыя адзінства сваёй краіны, ні кіраваныя расійскай вайсковай разведкай сепаратысты, ці нават самі расіяне заяўляючыя, як яны прагнуць міру ва Украіне. Невядома толькі чаму па ўсходняй тэрыторыі суверэннай украінскай дзяржавы бадзяюцца ад некалькіх дзён расійскія ваенныя калоны. Намецілі іх пасланнікі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ). Канвоі складаюцца з танкаў і грузавікоў з цяжкім ваенным абсталяваннем, у суправаджэнні танкаў паліва. Гэтыя ж назіральнікі, паводле французскага агенцтва AFP, акрамя таго заўважылі іншы канвой, «які складаецца з дзевяці танкаў тыпаў Т-72 і Т-64, што кіруецца да Данецка». Як танкі, так мундзіры салдат абслугоўваючых іх — без апазнавальных знакаў.

Кіруючыся старым зладзейскім прынцыпам расійскіх уркаў (злодзеяў), у якім гаворыцца, што «нават калі зловяць цябе за руку падчас крадзяжу, адмаўляйся, што гэта твая рука», Уладзімір Уладзіміравіч Пуцін рашуча ўхіляецца ад таго, што Расія цынічна ўмешваецца ва ўнутраныя справы Украіны, мілітарна падтрымліваючы данбаскіх сепаратыстаў. У гэтую хлусню, больш за тое, здаецца, вераць толькі самі расіяне — у рэшце рэшт, не дурнейшыя ад іншых народаў. Тым не менш, іх прыклад паказвае, што чалавечы мозг з'яўляецца надзвычай пластычным. Хопіць яго добра пагібаць, каб прыняў ён як ісціну найбольшае махлярства. Пуцінская прапаганда аваладала майстэрствам размінання мазгоў да дасканаласці! Сумна тое, што маніпуляцыю сацыяльнай інжынерыі, распрацаваную ў часы нацысцкай Германіі, той самай Германіі, якая падчас Другой сусветнай вайны пераарала танкамі расійскую зямлю да голай скалы. І ў імя чаго? У імя перавагі германскай расы над нібыта падчалавечым відам славян. Такую ж самую, хоць і перакуленую навыварат рыторыку пагарды выкарыстоўвае цяпер пуцінская прапаганда, уваскрашаючы міф аб Адзінай Расіі і вялікарасійскія настроі. Дзясяткі мільёнаў ахвяр нацысцкага шаленства нічога не навучыла большасці з іх расійскіх нашчадкаў. Яны дазваляюць гібаць свае мазгі, як калісь немцы паддаваліся гебельсаўскай прапагандзе — без крышынкі роздуму!

Супастаўленне ліку тысяч ахвяр вайны ва Украіне, вайны якую асабіста падсілкоўвае прэзідэнт Расіі, і мільёнаў забітых савецкіх грамадзян, якія загінулі падчас іх барацьбы супраць нацысцкай навалы, з'яўляецца злоўжываннем. Я гэта ўсведамляю. Тым не менш, не пра лік забітых тут гаворка, а аб чалавечай схільнасці да нерэфлектыўнага даверу адналікаму аўтарытарызму. Так было ў Германіі ў час Гітлера, якога немцы абвінавацілі ва ўсіх грахах, здзейсненых падчас яго дэмагагічнай улады. Гэтаксама дзеецца ў цяперашні час у пуцінскай Расіі. Аднак, праблема заключаецца не ў чыёй-небудзь віне, а ў недахопе одуму над характарам самадзяржаўя. Да чаго яно прыводзіць? І чаму дазваляюць на гэта зусім прыстойныя і разумныя нацыі, людзі?!.

Уладзімір Уладзіміравіч Пуцін ведае, што расіяне павінны думаць пра вайну ва Украіне. Раней ён сказаў ім, што яны маюць думаць пра вайну ў Чачні і Грузіі. Сёння ён кажа ім пра гібель тысяч украінцаў — што яны самі вінаваты ў гэтым. І дазвольце мне нагадаць вам, што ва ўкраінска-рускай вайне загінула больш за чатыры тысячы мірных жыхароў. Так многа жыхароў як налічвае ўся нарваўская абшчына. Я жыву ў Нарваўскай гміне. Падобна як больш за чатыры тысячы іншых жыхароў — маіх знаёмых, сяброў, добрых суседзяў. Беларусаў і палякаў. Не дай Бог, каб хтосьці ўсадзіў уркаўскую лапу паміж нас!

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Самаўрадам
## пара зяміцца

У выніку палітычнага гандлю вакол падзелу на новыя ваяводствы ўзнікла іх больш, чым праектавалася, што непазбежна спрычынілася да таго, што яны меншыя, маюць слабейшую даходную базу і вялікая іх частка не ў змозе самастойна фінансаваць палітыку развіцця і бягучую дзейнасць сферы публічных паслуг, — гэта адна з першых высноў, да якіх прыйшла група даследчыкаў у рапарце аб стане мясцовага самакіравання ў Польшчы. Апублікавалі яго некаторы час таму Эканамічны ўніверсітэт у Кракаве і Малапольская школа публічнай адміністрацыі. Так атрымалася, што я прачытаў яго якраз перад выбарамі 16 лістапада. Аўтары ў яго першым раздзеле трывожацца: «Нам патрэбна сур'ёзная дыскусія аб польскай мадэлі мясцовага самакіравання. У адваротным выпадку, дысфункцыі павялічацца, што прывядзе да пастаяннай дэгенерацыі і незваротнай дэфектнасці сістэмы самакіравання». І далей: «На працягу дваццаці гадоў, з моманту стварэння самаўрадавага муніцыпалітэта не было свядомага і шырокага дзеяння ўлад дзяржавы, якое імкнулася б стварыць і ўмацаваць элементы «нізавой арганізаванасці грамадства» ў органах мясцовага самакіравання. Праявай такога намеру можна, з цяжкасцю, палічыць увядзенне інстытута рэферэндуму і фармаванне сектара няўрадавых арганізацый (тут асаблівае значэнне мае Закон аб дзейнасці дзеля грамадскага дабра і аб валанцёрскай працы, прыняты ў 2003 г.). У выніку маем у самаўрадзе выразны чыноўніцкі нахіл, узмоцнены ініцыятывамі, якія практычна абмяжоўваюць дэмакратыю самакіравання». З занепакоенасцю сцвярджаюць: «Праблема дыспрапорцый развіцця ў Польшчы хутка ўзмацнялася, і яна праяўляецца ў паглыбленні няроўнасці ў фінансавых магчымасцях органаў мясцовага кіравання. Трэба лічыцца з тым, што ў будучыні, калі маштабы еўрасаюзных трансфертаў будуць прыкметна абмежаваны, праблема міжрэгіянальных і ўнутрырэгіянальных дыспрапорцый развіцця значна абвострыцца». Пры нагодзе, беручы пад увагу даступныя дэмаграфічныя прагнозы, звяртаюць увагу, што ў перспектыве 25 гадоў насельніцтва Польшчы будзе сістэматычна і істотна зніжацца. Гэта — як адзначаюць — самая драматычная праява старэння насельніцтва, абумоўленая ў асноўным вельмі нізкім (ад шэрагу гадоў) паказчыкам нараджальнасці. І так на Падляшшы лік жыхароў, як чакаецца, скароціцца з больш чым 1 169 000 асоб у 2015 годзе да больш чым за 1 072 000 у 2035 г. (без сумневу, гэтая з'ява кране рэгіёны, дзе кампактна пражывае беларуская меншасць).

Аўтары рапарта прапануюць, у прыватнасці, укараненне новай мадэлі кіравання мясцовымі радамі, якія маглі б наняць выканаўчага мэнэджара для кіравання ўстановай, ды тыпова парламенцкай мадэлі кіравання радай — з выканаўчай уладай адказнай перад радай. На іх думку, радныя павінны прымаць больш актыўны ўдзел у кіраванні мясцовымі органамі ўлады, каб у канчатковым рахунку прыняць на сябе адказнасць за іх дзейнасць. Тэрміновая справа — як можна прачытаць у рапарце — вызначэнне мінімальнага стандарту публічных паслуг, рэалізацыя якіх павінна мець гарантыю дзяржаўнага фінансавання, пачатак прац над новай канструкцыяй сістэмы муніцыпальных даходаў, дапушчэнне свабодных рашэнняў самаўрада ў справе «абсягу дзейнасці, што ажыццяўляецца ад імя мясцовай супольнасці і, такім чынам, таксама абкладання жыхароў падаткамі і зборамі больш мінімуму, які павінна гарантаваць дзяржава». Таму самаўрады павінны мець больш шырокія паўнамоцтвы, звязаныя з вызначэннем мясцовых падаткаў. Сярод многіх прапанаваных змен неабходна ўпарадкаваць дзейнасць камунальных прадпрыемстваў, так каб парваць з фікцыяй іх рыначнага профілю (дзейнасці настаўленай на прыбыткі) і падпарадкаваць прынцыпы іх працы асноўнай функцыі, якую маюць выконваць — рэалізацыі публічных задач. Акрамя таго маю ўвагу прыцягнула прапанова вызначэння і дыферэнцыяцыі задач і функцый культурных устаноў на розных узроўнях самаўрада. Аўтары лічаць неабходным «прааналізаванне і вызначэнне крытэрыяў эканамічнай эфектыўнасці ўстаноў культуры» так, каб самаўрады атрымалі выразную кропку адліку, якая дазволіла б знайсці правільны баланс паміж фінансавымі патрабаваннямі асяроддзяў, звязаных з установамі культуры, і жорсткімі абмежаваннямі, накладзенымі самаўрадам, якія дэфакта перашкаджаюць у функцыянаванні ўстаноў культуры». Прачытаў я таксама: «Самаўрадавыя ўстановы культуры павінны быць у стане статутна падтрымліваць дзейнасць грамадскіх арганізацый, якія вядуць культурную дзейнасць, ствараючы свайго роду культурныя кластары».

Урэшце кінулася мне ў вочы прапанова наконт сістэмы выкарыстання еўрасаюзных сродкаў мясцовым самакіраваннем: «Яго функцыяй павінна быць не хуткае расходаванне сродкаў ЕС, але іх разумнае выкарыстанне. Павелічэнне тэмпаў расходаў у любым выпадку не абазначае іх вышэйшай прыдатнасці».

Прапановы паправак у механізмах дзейнасці самаўрадаў змешчаны ў рапарце на больш чым ста старонках. Прыслухоўваючыся самаўрадавай выбарчай кампаніі 2014 г. я не пачуў, каб які-небудзь з выбарчых камітэтаў (па меншай меры, з тых, якія я назіраў на Падляшшы), хоць пісnуў аб неабходнасці такіх змен у сістэме. І гэта, напэўна, не таму, што яны непатрэбныя.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**




# Што абяцалі, а што зрабілі?

**«Гміна, павет, ваяводства напярэдадні самаўрадавых выбараў» — пад такім загалоўкам на Беларускім Радыё Рацыя гучалі перадачы, у якіх падводзілі мы вынікі працы мясцовага самакіравання на Падляшшы.**

На працягу двух з паловаю месяца нашы журналісты адведалі 22 гарадскія і вясковыя гміны і два паветы. Размаўлялі яны з кандыдатамі на пасады войтаў, бургамістраў, старастаў ды прэзідэнта Беластока. Для нашага радыё выказваліся кандыдаты на мясцовых радных, а таксама, а мо перш за ўсё, жыхары — патэнцыйныя выбаршчыкі. Распытвалі пра гаспадарку, новыя інвестыцыі, паслугі, перспектывы развіцця гміны ды пра беларускасць. Пры кожнай гміне нашыя рэпарцёры шукалі нейкага вызначальніка, якім была б яна адметнай. Для прыкладу: Міхалова — гміна без падаткаў, або Гарадок — дарожны пераход з Беларуссю.

Дык і што атрымалася?

Давайце возьмем для прыкладу дзве гміны з розных канцоў Беластоцкага краю.

Новы Двор Сакольскага павета калісьці славіўся кірмашамі быдла і коней. Пасля Другой сусветнай вайны, калі ўсталявалі непадалёк польска-савецкую мяжу, страціў сваё значэнне. Сёння гміна з году ў год пусцее.

— Можа яшчэ і гміну развяжуць, калі будзе такая сітуацыя. Каторы дастанецца да ўлады, многа крычыць, мала робіць. За апошнюю кадэнцыю нічога не зрабіў, — наракаюць жыхары гміны Новы Двор

— Гаворыцца, што робіць дарогі, — дапытваецца рэпарцёрка Радыё Рацыя Уля Шубзда.

— Нідзе няма той дарогі, — не ўступаюць людзі. — «Асфальты жвіруе», у ніводнай вёсцы не паклалі асфальту за кадэнцыю. Залівы робіць трэці год, о рабілі і прарвалі. Унія дала грошы і нічога не робіцца. Думаю, што гэтую гміну трэба забраць пад Дуброву, пад іншую гміну. Няма тут толку ніякага.

Закіды ў бок войта гміны Андрэя Гуменнага абвяргае сакратар Гміннай управы Станіслаў Грынкевіч. На першым месцы — водаправоды:

— Важнейшыя інвестыцыі ў 2011-2014 гадах гэта водаправоды. А наша гміна бедная, наш бюджэт гэта каля 7 мільёнаў злотых, з чаго на асвету ідзе 2-2,5 мільёна. Наступная праблема — дарогі гмінныя і павятовыя. Мы перанялі на гміну дарогі павятовыя і рамантуем як можам. Сакольскі павет мала нам дапамагае. Войт стараецца, ездзіць, дзе толькі можа, ну не выходзіць часам. Але не то што ён толькі сядзіць у гміне. Клапоціцца. Мо ў наступнай кадэнцыі (тэрміне паўнамоцтваў) будзе лепш, — дадае.

У Новым Двары перспектыў для маладых няма. У спадара Грынкевіча двое дзяцей завяршае навуку на палітэхніцы і сюды ўжо не вернуцца. Адзіны інвестар, які хацеў пабудаваць тут ветравую станцыю, апошнім часам адмовіўся ад планаў інвестыцыі. Беларуская мова як прадмет у школе не навучаецца, хаця большасць жыхароў, як і сам сакратар гміны, без сораму гаварылі да нашага мікрафона пабеларуску.

А зараз прапаную завітаць на Гайнаўшчыну, у Чыжы. Гміна, у якой пражывае найбольшы адсотак людзей, якія заявілі сваю нацыянальнасць як беларускую (звыш 80% паводле перапісу насельніцтва ад 2001 года). Але і тут мноства нараканняў:

— Кожны толькі хоча да карыта ўлезці, ну і ўсё. А тое, што зрабілі кусок таго тратуара, дарогі? Мала дарог зрабілі. Ужо трэба, ведаеце, другога войта. Бо гэты ўжо многа гадоў на пасадзе, — кажа жыхарка вёскі нашаму рэпарцёру Мацею Рацінеўскаму.

— Акурат наадварот, — пярэчыць другая кабета. — Дарогі ў нашай Чыжоўскай гміне быццам нажом адрэзаў. Куды лепшыя, як у суседніх: Бельскай і Гайнаўскай.

— Мінаючы 4-гадовы тэрмін паўнамоцтваў (кадэнцыя) завяршыўся, думаю, поспехам, — кажа шматгадовы войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк. — Шмат было падтрымкі (фінансавай) звонку, а і сваіх сродкаў хапала, каб рэалізаваць найважнейшыя патрэбы нашых жыхароў. Ну, вядома, найбольш увагі мы аддавалі пытанню дарог. Распачалі і завяршылі адрэзак дарогі Курашава — Волька — Трывежа, працягваем мадэрнізацыю дарогі Курашава — Новы Корнін (сам войт родам з Курашава)...

Былі і праблемы. Рашыліся мы на пабудову электраветрастанцыі, якая падзяліла жыхароў гміны. Але трэба і памятаць, што мы — адна з меншых гмін у ваяводстве, з малым бюджэтам, таму трэба адкрывацца на новыя прапановы, на інвестыцыі, — дадае Васілюк.

Скандал з рэферэндумам у справе ветракоў не адзіная праблема войта.

Можна мець прэтэнзіі і за недастатковую беларускасць. Хаця беларускую мову ў мясцовай пачатковай школе і гімназіі вывучае амаль 100% дзяцей. Таксама з'яўляецца яна дапаможнай у працы гміннага самакіравання. Але ўжо двухмоўных шыльдаў і дарожных указальнікаў гмінныя ўлады не адважыліся ўвесці. Што на гэта спадар войт?

— Ва ўсіх вёсках жыхары не супраць. Чаму не ўводзім? Адказ просты. Міністэрства асветы адабрала нам датацыю на беларускую меншасць. Страцілі мы 300 тысяч злотых. Таму з Гміннай радай дайшлі да вываду: сігналім гэтым чынам, што не будзем зацікаўленыя так моцна падтрымкай нашай тоеснасці. Справы аднак не зачыняем, але пакуль адстаўляем.

Ого!!! Мне прыгадваецца такая прыказка: «На злосць бабулі адмарожу сабе вуха».

Аднак трэба сцвердзіць, што беларускую культуру, фэсты, агляды і беларускія калектывы гмінныя ўлады падтрымліваюць.

Коратка падводзячы вынікі перадач «Гміна, павет, ваяводства напярэдадні самаўрадавых выбараў» трэба адзначаць, што гміны, пачынаючы ад Ліпска, што па правым баку Бобры, па Мельнік, што таксама па правым баку, але Буга, заселеныя ў значнай ступені беларусамі. І беларускасць гэтую відаць, ці дакладней кажучы на мове радыё — чуваць. Хаця ў розных гмінах тая ж беларускасць мае рознае вымярэнне. У адных гэта будзе выступ беларускага калектыву падчас гміннага фэсту, і гэтага хапае. А ў іншых беларуская мова не толькі выкладаецца як прадмет у школе, але бывае дапаможнай у працы гміннай управы. У выпадку Орлі гэта двухмоўныя шыльды і дарожныя ўказальнікі. Адзіная такая гміна ў Польшчы, хаця пайсці за арлянскім прыкладам могуць іншыя гміны ў адпаведнасці з законам аб нацыянальных меншасцях.

Далей. Аказваецца, што наведаныя намі гміны знаходзяцца на вельмі розным гаспадарчым узроўні. Адны звычайна гібеюць, моцна задоўжаныя, а грошай хапае на платы для працаўнікоў гміннай управы ці школы, некаторым у пагранічнай варце. Для прыкладу Новы Двор, Дубічы-Царкоўныя. Іншыя, як хаця б Міхалова, Мельнік або Орля, маюць грошы на інвестыцыі, на рамонты дарог, тратуараў ці культуру і шмат яшчэ чаго...

Міхалова і Мельнік — маюць карыснае палажэнне ля мяжы. Праз тэрыторыю гміны праходзяць газа- і нафтаправоды. Адтуль і падаткі для гміны. Орля, у сваю чаргу, гэта падаткі ад замежнага інвестара — шведскага мэблевага прадпрыемства, ды ў недалёкай будучыні — ад ветрастанцыі.

Усе гміны, якія з мікрафонам наведалі журналісты Беларускага Радыё Рацыя, на жаль, характэрныя тым, што з году ў год меншае ў іх лік жыхароў, больш памірае, чым нараджаецца. Меншае моладзі, прыбаўляецца старэйшых. Чаму? Адказ у кожнай гміне ці гарадку той жа самы — няма працы. І гэта не толькі ў Чыжах, Сідры, ці Мілейчычах, але таксама ў Гайнаўцы і Бельску-Падляшскім.

І яшчэ пару слоў пра кандыдатаў.

За пасаду бургамістра Бельска змагацца будзе аж 6 кандыдатаў, у Саколцы — 4, але ў Гайнаўцы маем толькі аднаго.

Гмінай Сідра на Сакольшчыне ад чатырох тэрмінаў кіруе той самы войт. І балатуецца на пяты тэрмін (кадэнцыю). Але рэкардсменкай з'яўляецца Вольга Рыгаровіч — войт вясковай гміны Гайнаўка. Правіць яна гмінай з самага пачатку свабоднай Польшчы, з 1990 года. Сёлета завяршае сваю самаўрадавую працу, чаго нельга сказаць пра войта Нараўчанскай гміны. Гэты рэкардсмен балатуецца ў надыходзячых выбарах на сёмы тэрмін (кадэнцыю). Маем каго выбіраць.

*На аснове перадач з цыкла «Гміна, павет, ваяводства напярэдадні самаўрадавых выбараў», якія даступныя на сайце www.racyja.com у закладцы «Мясцовыя выбары ў Польшчы»*

**Юрка ЛЯШЧЫНСКІ**
**(Аўтар з'яўляецца Праграмным дырэктарам Беларускага Радыё Рацыя)**

---

Напярэдадні самаўрадавых выбараў

# Дзве праўды

Да выбараў засталіся лічаныя дні і гадзіны. Кандыдаты на кіраўнікоў самаўрадаў арганізуюць апошнія выбарчыя сустрэчы. У Чаромхаўскай гміне зарэгістравана восем выбарчых камітэтаў. На пасаду войта прэтэндуюць тры кандыдаты: цяперашні войт Юры Шыкула, былы войт Міхал Врублеўскі з Гайнаўкі і Ежы Сцяхура, чарамшанін, даўнейшы кіраўнік мясцовай камунальнай гаспадаркі.

За 14 мандатаў у гмінную раду будзе змагацца 57 кандыдатаў. Дагэтуль не прыйшлося мне пазнаёміцца з праграмай чаромхаўскіх кандыдатаў на войта і радных. Што сабою прадстаўляюць, што будуць рабіць у чатырохгадовай будучыні, цяжка сказаць. Пакарыстаюся затым лістоўкай Міхала Врублеўскага, якая трапіла мне ў рукі.

З Міхалам Врублеўскім мы добра знаёмыя. Дваццаць два гады знаходзіўся ён на пасадзе войта гміны. Як спраўляўся з абавязкамі, не стану спрачацца. Рахунак выставілі яму на выбарах у 2010 г. жыхары Чаромхаўскай гміны. А вось як гэта каментуе зараз сам Врублеўскі ў выбарчай лістоўцы.

«У 2010 годзе вялі супраць мяне паклёпніцкую выбарчую кампанію. Абвінавацілі мяне ў задаўжэнні гміны да грані банкруцтва. Пры канцы майго тэрміну задоўжанасць складала 3 042 455 зл., калі на 30 чэрвеня 2014 г. павысілася яна да 8 052 344 зл.». І далей: «Рэалізацыя задач у 2010-2014 гг. была магчымая беручы пад увагу раней падрыхтаваныя кіраванай мною ўправай Гміны тэхнічныя праекты: дарожныя і водна-каналізацыйныя». І далей: «Бачу карціну будучыні далейшага грамадска-гаспадарчага развіцця Гміны, улічваючы патрэбы грамадскіх груповак, асабліва дзяцей і моладзі забяспечваючы поўнае выкарыстанне існуючай спартыўнай базы — «Арліка» і пляцоўкі для гульняў пры пачатковай школе. Аддаўшы на мяне голас, маеце гарантыю, што буду клапаціцца аб справядлівае і добрасумленнае кіраванне Гмінай».

Здавалася б, што ўсё ў належным парадку. І так я думаў, калі б не вячэрні званок тэлефона.

— Праверце, калі ласка, паважаны спадар Сідарук, — распазнаў я ў трубцы ўзбуджаны голас войта Юрыя Шыкулы, — «Распараджэнне № 273/10» ад 10 лістапада 2010 г., якое тычыцца «Шматгадовага фінансавага прагнозу». Асаблівую ўвагу звярніце на дадаткі 2 і 3, а таксама на паясненні на апошняй старонцы. Электронны поштай пасылаю Вам поўны змест дакумента, — завяршыў размову войт.

Варта адзначыць, што дакумент № 273/10 ад 10 лістапада 2010 г. падпісаў тадышні войт Міхал Врублеўскі і прыняты ён быў на пасяджэнні Рады гміны раднымі, затым адасланы ў Рэгіянальную разліковую палату. А вось што змяшчаюць дадаткі № 2 і 3 да згаданага распараджэння і тэкст паяснення да ШФП:

«Horyzont czasowy WPF dla Gminy Czeremcha został wyznaczony na lata 2011-2015, ponieważ Gmina Czeremcha planuje zaciągnąć w 2011 r. kredyt na spłatę wcześniej zaciągniętych kredytów i pożyczek z okresem spłaty przypadającym na lata 2012-2015. Spłata wcześniej zaciągniętych kredytów i pożyczek będzie przypadała na lata 2011-2014.

— Na koniec 2010 roku Gmina Czeremcha planuje kwotę długu w wysokości 4 066 157 zł, z czego pożyczki zaciągnięte na wyprzedzające finansowanie działań finansowanych ze środków pochodzących z budżetu Unii Europejskiej 1 023 702 zł oraz 978 328,53 zł zaciągnięte na realizację projektów realizowanych z udziałem środków Unii Europejskiej oraz pozostałe kredyty i pożyczki 2 064 126,47 zł. Planowany do zaciągnięcia kredyt w 2011 roku przeznaczony będzie na spłatę wcześniej zaciągniętych kredytów i pożyczek. Na koniec 2011 r. dług zmniejszy się w porównaniu z 2010 r. o kwotę 230 000 zł i wyniesie 3 836 157 zł, na koniec 2012 r. wyniesie — 2 745 361 zł, na koniec 2013 r. wyniesie — 1 679 110,00 zł, na koniec 2014 r. wyniesie — 835 065 zł, na koniec 2015 r — 0 zł.

Załącznik Nr 2 jest zerowy ponieważ nie wystąpiły pozycje związane z realizacją przedsięwzięć z uwagi na to, że Gmina Czeremcha nie realizuje obecnie wieloletnich programów, projektów lub zadań oraz nie posiada zawartych umów na realizację tych przedsięwzięć . Nie ujęto w tym załączniku umów na dostawę energii oraz abonamenty rozmowy telefoniczne, ponieważ nie potraktowano wydatków wynikających z tych umów jako wydatków na realizację zadania, a jedynie jako zapłatę za świadczone usługi.

Wieloletnich umów w tym o partnerstwie publiczno-prywatnym jednostka samorządu terytorialnego nie posiada».

З вышэйпаказанага вынікае, што спадар Міхал Врублеўскі піша ў лістоўцы няпраўду. Каму затым верыць: Распараджэнню № 273/10 ад 10 лістапада 2010 г., падпісанаму тадышнім войтам Міхалам Врублеўскім, ці таму што піша ў выбарчай лістоўцы кандыдат на пасаду войта Міхал Врублеўскі?

Ацэнку дадуць выбаршчыкі.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Шануйма прыроду

Едучы з Беластока ў Бельск, пры асфальтоўцы з правага боку перад мостам на рацэ Нарве за Рыбалямі (каля 400-500 метраў да скрыжавання дарог у Войшкі), знаходзіцца лясная дарожка з пазухай, дзе заязджаюць шафёры аўтамабіляў на адпачынак і афармляюць свае фізіялагічныя патрэбы. Гэтай дабрадзейнасцю і мне прыйшлося два разы пакарыстацца. І тут ашарашыла мяне жудаснае відовішча. Навокал лясной яміны валяюцца гурбы смецця (фольгавыя мяшочкі і бутэлькі, папяровая ўпакоўка). Забруджваюць лес. Не хочацца верыць, што ў XXI стагоддзі, калі народы свету змагаюцца за ўтрыманне чысціні натуры, знаходзяцца ў нашым грамадстве паразіты і зламысна знішчаюць прыроду. Засмучае мяне факт, што ніхто з адказных чыноўнікаў лясной службы і гміннага самаўрада дагэтуль не пацікавіўся «дзікай» сметніцай. А так быць не павінна. У народзе кажуць: як нас бачаць, так пра нас пішуць. Бо гэта праўда!..

**Уладзімір СІДАРУК**

## Маставыя

Улады Гайнаўкі дбаюць пра гарадскія вуліцы. Прыемна зараз ездзіць вуліцамі Баторыя, 11 Лістапада, Доўгай, Паддольнай, Электрычнай, Паркавай, Ліпавай, Ракавецкага, Касідлаў, Мілкоўскага, Падлясе і іншымі.

Зараз — ужо падрыхтавалі да асфальтавання, між іншым, вуліцу Ясяновую на пасёлку Ліпавая (за 215 тысяч злотых) ды вуліцы Мядзяную, Гранічную і Металёвую на пасёлку Пашкі (за 209 тысяч злотых). Магчыма, што атрымаюць яны таксама дажджавую каналізацыю.

Варта дадаць, што ў мінулым годзе былі адноўлены маставыя на пяці гайнаўскіх вуліцах ды мадэрнізавалі электраасвятленне на дзевяці вуліцах у цэнтры горада і на яго перыферыі — за трыста тысяч злотых.

## Прыгожыя лямпы ў цэнтры горада

Прыгожыя стылёвыя электралямпы свецяць вечарам і ноччу ў цэнтры Беластока. Найбольш іх на вуліцах Ліпавай, Млынавай, Кіеўскай, Суражскай, Заменгофа і Электрычнай, на Універсітэцкім пляцы і на скверыку пры вуліцы Мальмеда. Яны на слупах з дэкаратыўнымі элементамі.

Захапленне выклікаюць лямпы на адрэзку вуліцы Ліпавай перад крамай „Фінезія” ды ля скрыжавання з вуліцай Гарохавай і Чанстахоўскай. Па вуліцы Ліпавай ілюмінавалі два прыгожыя будынкі: камяніцу пад карыятыдамі і палацык Новіка. Вечарам па вуліцах у цэнтры Беластока прыемна хадзіць.

**(яц)**





Мірка Антановіч пыхкае люльку

# Абрад на сцэне

**Ужо дваццаць першы раз Беларускае грамадска-культурнае таварыства арганізавала агляд «Беларускі абрад на сцэне». У яго інаўгурацыйнай беластоцкай адслоне ў сядзібе Таварыства прынялі ўдзел пяць груп з Гарадка, Гайнаўкі, Дабрывады, Бельска-Падляшскага і Беластока. Кожная з груп ставіла іншы абрад, звяртаючыся да беларускіх каранёў, часта з выкарыстаннем рэквізітаў, якія сёння звычайна пакояцца па гарышчах. Перш за ўсё, аднак, карысталіся аповедамі, якія яшчэ захаваліся ў беларускай памяці.**

Абрадныя прэзентацыі, як правіла, у календары падзей БГКТ запланаваны на лістапад, маюць сваіх пастаянных гледачоў, першыя з якіх у глядзельнай зале Галоўнага праўлення БГКТ 7 лістапада з'явіліся задоўга да першага паказу. Таксама пераважная большасць выступаючых у яго рамках сёлета не першы раз ставіла крокі на «Восень у вёсцы». Вера Масайла:

— У папярэдні раз мы расказвалі падчас агляду ў нашых сцэнках як гэта было раней у нашых сёлах, як жылі людзі, чым яны займаліся, чым займалася моладзь. Падобна і ў гэты раз.

Акцёр гэтай сцэнкі Матэвуш з гайнаўскага Комплексу школ № 1:




Жанчыны з Дабрывады

сцэне. Віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень вітаў артыстаў і гледачоў:

— На сцэне прэзентуюць сваё мастацтва тыя, для якіх беларуская культура, звычаі і абрады нашых продкаў дарагія і заўсёды ў іх сэрцах. Не пашкадавалі часу, каб падрыхтавацца і паказаць, кім мы, беларусы, былі, ёсць і будзем. Вельмі важна, каб маладым пакаленням перадаваць нашу традыцыю і гісторыю, каб нашчадкі адчувалі сябе беларусамі, каб ганарыліся, хто яны і ведалі, што маюць вельмі багатую культуру.

Не ўпершыню сцэнку на агляд, багатую ў рэквізіты і поўную дэкарацый, падрыхтавала Вера Масайла. Маладыя людзі пад яе апекай, з розных школ — пачаўшы з чацвёртага класа пачатковай школы да другога класа гімназіі — з групы «Званкі» (Гайнаўскі дом культуры) падрыхтавалі сцэнку:

— Я іграю закаханага беднага хлопца. А бацькі маёй любай хочуць крыху інакш: яны хочуць выдаць яе замуж за багатага. Наш аповед пра тое, як у вёсцы сто гадоў таму дзяўчына выходзіла замуж. І здараецца амаль так, як цяпер у тэлесерыялах.

Ганна Леанюк:

— Я іграю бабулю, якая хоча, каб ейная ўнучка пайшла замуж за багатага суседа Сцяпана, ды тая закаханая ў беднага. Такія выступы з'яўляюцца працягам нашай беларускай культуры, каб наступныя пакаленні ведалі, якія былі традыцыі нашых продкаў. Я ахвотна іграю ў спектаклях, таму што я родам з беларускай сям'і і люблю выступаць на сцэне. Дарэчы, я таксама ўдзельніца ансамбля «Перапёлка».

Яцак Дружба нядаўна далучыўся да групы:

— Я далучыўся, таму, што не было ў ёй гарманіста, і, вядома ж, у сцэнцы іграю на акардэоне.

На беларускую калядную традыцыю спаслаўся беластоцкі хор «Крыніца» пад кіраўніцтвам Вольгі Губар. Багаты ва ўдзельнікаў, замест з гвяздай з'явіўся на сцэне з казой. Харыстка Алена Арцішэўская распавядала «Ніве» перад выступленнем:

— Мы паказваем як калісь калядавалі з казой. У гэты раз у нас была ідэя зрабіць нешта крыху інакш, але з традыцыйнымі прывітаннямі і калядкамі. Мы падрыхтавалі абрад спецыяльна для агляду. У вёскі з ім не ездзім, таму што там свае калядзнікі ходзяць ці на санях ездзяць. А мы, хоць таксама родам з вёскі, ужо гарадскія. Хочам, аднак, каб і ў Беластоку памяталі беларускія традыцыі. Наш хор ужо шмат гадоў працуе і мы паказалі многа абрадаў: вячоркі, валоканне, як гэта было на хрэсьбінах або вяселлях, і раней як сваты выглядалі, і калядаванне ўжо прадстаўлялі. Такім чынам, каб не было нудна, у гэты раз мы выходзім на сцэну не з гвяздай, а якраз з казой.

Гарадоцкі «Асенні ліст» сёлета падрыхтаваў сцэнку «Шаптуха», як звычайна, не без гумару (асабліва дзякуючы Міраславе Антановіч у ролі Бацькі), але таксама дакладна паказваючы сакрэты знікаючай ужо на падгарадоцкіх вёсках традыцыі нетрадыцыйнага лекавання.

— У самім Гарадку шаптух ужо няма, а і ў ваколіцах амаль ужо няма, апрача Радуліна, — прызналася спадарыня Мірка, на сцэне з намаляванымі вусамі і барадой і пыхкаючая люльку.

Марыя Сіўкоўская з гарадоцкага калектыву згадала ў гутарцы з намі:

— Сёння па вёсках проста ездзяць да доктара, а калісь дапамагала людзям толькі замаўлянне, малітва ў шаптух. Цяпер медыцына іншая. Калісь мала было лекараў і мала людзей у іх лячылася.

Галена Бура дадала:

— У нашых сцэнках мы выкарыстоўваем тое, што расказвалі нашы бабулі. У падрыхтоўцы мы збіраліся і кожная з нас расказвала, прыгадвала, як нас у дзяцінстве лячылі, як бабкі вазілі нас да шаптух. Гэтае лячэнне сапраўды дапамагала, тым больш, што калісь медыцына стаяла зусім нізка, не тое, што цяпер. Напрыклад, дзіця супакойвалася, калі яго акурылі свянцоным зеллем з малітвай. Перш за ўсё, аднак, дапамагала малітва, а чалавек, калі ён моліцца, то і стрэс пры хваробе сыходзіць. Усё, што мы паказваем у нашай сцэнцы, узятае з рэальнага жыцця, і моладзь ужо гэтага не ведае.

Пажылыя жанчыны з Дабрывады летась падчас агляду абрадных калектываў захапілі паказам апрацоўкі льну. Сёлета паказалі працэс бялення палатна. Валянціна Клімовіч:

— Мы не толькі хочам паказаць адбельванне палатна, але і як аснаваць, ніткі выбельваць. Калісь ніткі выбельвалі ў попеле, каб трошку былі бялейшыя і мякчэйшыя, бо нітка мусіць быць простая і мяккая, а не крутая і цвёрдая. Зараз моладзь у вёсцы не ўмее зрабіць не толькі такіх рэчаў, і нават вязаць кручком або на прутках. Купляюць усё ў краме, або ўжо ў горадзе жывуць. Мы паказваем гэты абрад, каб, можа, старэйшыя нагадалі, як гэта рабілася, асабліва выхадцы з вёсак. Можа падумаюць: «Ага, так рабіла і мая мама» і, можа, «і я таксама калісьці так маёй маме дапамагала». Мы ведаем, як гэта зрабіць, таму што мы самі гэтак снавалі, ткалі і выбельвалі ў попеле. Потым то ўжо ў паршку выварвалі, каб нітка была мякчэйшая і прыгажэйшая.

На сцэне паявілася таксама ўжо традыцыйна група Універсітэта трэцяга ўзросту з Бельска-Падляшскага пад кіраўніцтвам Тамары Русачык. На гэты раз прадставілі яны сцэнку «Вячоркі».

Наступныя прэзентацыі сёлетняга выдання «Беларускага абраду на сцэне» адбудуцца 15 лістапада ў Беластоку (г. 17.00, сядзіба ГП БГКТ), 21 лістапада ў Дубічах-Царкоўных (г. 17.30, Гмінны цэнтр культуры, спорту і адпачынку), 22 лістапада ў Бельску-Падляшскім (г. 17.00, Бельскі дом культуры), а цэнтральны агляд пачнецца 23 лістапада ў 14.00 у Гайнаўскім доме культуры.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Робат RECON - вынаходства на меру паравой машыны!

**Робат RECON пабудаваны студэнтамі Політэхнічнага інстытута ў Беластоку заваяваў свет. На міжнародным конкурсе ў Японіі гэты праект атрымаў другое месца. Прэстыжная ўзнагарода давяла да таго, што ў сферы робататэхнікі беластоцкія вынаходнікі не маюць сабе роўных.**



Фота з прыватнага архіва Давіда Карчэўскага

Злева: Міхал Грэсь, Павал Грэсь і Давід Карчэўскі

Робаты выконваюць за чалавека розныя абавязкі ў многіх сферах штодзённага жыцця. Некаторыя нават сцвярджаюць, што ўваходзім у зусім іншую цывілізацыйную эру, а змены, якія адбываюцца на нашых вачах, можна параўнаць да вынаходства паравога рухавіка! Дыстанцыйна кіраваныя або поўнасцю аўтаномныя машыны штораз часцей заступаюць чалавека ў складаных і небяспечных заданнях. Менавіта ў такіх „місіях" будзе выкарыстоўваны RECON — робат зроблены трыма студэнтамі родам з Падляшша.

Давід Карчэўскі, выпускнік Гайнаўскага белліцэя, Міхал Грэсь і Павал Грэсь з Беластока сталі вядомымі канструктарамі амаль на цэлым свеце. Гэтым студэнтам напэўна не бракуе крэатыўных ідэй у пошуках новых рашэнняў у галіне электрыкі і механікі.

**Да чаго патрэбны робат?**

Сама назва RECON гэта абрэвіятура слоў, якія абазначаюць рабатызаваную сістэму для назірання навакольнага асяроддзя. Асноўнай задачай робата RECON будзе даследаванне ўмоў на небяспечных і недаступных для чалавека тэрыторыях.

— RECON у асноўным складаецца з трох галоўных элементаў, — кажа Давід Карчэўскі. — Адзін з іх — сам модуль робата, які на самой справе з'яўляецца мабільнай радыёстанцыяй. Другі гэта спецыяльныя датчыкі, а трэці — створанае намі адпаведнае праграмнае забеспячэнне.

Робат мае ўсе неабходныя элементы, якія дазваляюць даследаваць, напрыклад, сібірскія балоты. На гэтай тэрыторыі робат размяшчае датчыкі, якія збіраюць розную інфармацыю. Затым вынікі памераў перадаюцца па радыё да робата, а пры яго дапамозе далей, да спецыяльнай сеткі.

— У нашым робаце выкарыстоўваем датчыкі, якія мераюць тэмпературу, ціск, а таксама ўтрыманне метану ў паветры, — падкрэслівае Давід. — Раставанне лёду на Сібіры выклікае вызваленне гэтага газу, які з'яўляецца значна больш небяспечным, чым вуглякіслы газ. Наш робат, як мала які, мае шрубавы прывод. Дзякуючы таму можа без праблемы даследаваць нават багністыя месцы Сібіры.

**Прызнанне на міжнародным конкурсе**

Зусім нядаўна, у ліпені, робат RECON, супольна з яго вынаходнікамі, паехаў у Японію на Міжнародны конкурс і CAN (International Contest of Applications in Nano-Micro Technology). Мерапрыемства праходзіла ў горадзе Сендай. Апрача Давіда, Паўла і Міхала з беластоцкага політэхнічнага інстытута ў конкурсе прымалі ўдзел яшчэ 22 каманды з цэлага свету. Усім трэба было пабудаваць робат, які мог бы дапамагчы даследаваць тэрыторыі пасля прыродных катастроф, а таксама пры збіранні даных з небяспечных для людзей месц. Праект RECON аказаўся настолькі добрым, што заняў высокае, другое месца. Паколькі робат дацанілі лепшыя міжнародныя спецыялісты, ці ёсць шанц, каб у будучыні з'явіўся ён на рынку ў камерцыйнай версії?

— Робат, які мы зрабілі, гэта прататып, — тлумачыць Давід. — Для таго, каб увесці яго на рынак, мы патрабуем зрабіць яшчэ шмат паляпшэнняў, напрыклад, выкарыстоўваючы матэрыялы лепшай якасці. Для гэтага, вядома, патрэбныя грошы. Мы не ведаем ці знойдзецца хтосьці зацікаўлены такой інвестыцыяй. Калі не, гэты праект напэўна будзе надалей развівацца, напрыклад, у рамках нейкіх занятках у політэхнічным інстытуце.

Такім чынам, можам спадзявацца, што раней ці пазней RECON пачне шырока выкарыстоўвацца пры тэставанні цяжка даступных і небяспечных месц. Тым часам заўважаем, што дзякуючы Давіду, Міхалу і Паўлу Політэхнічны інстытут у Беластоку стаў самым важным цэнтрам польскай тэхнічнай думкі ў галіне робататэхнікі. А беларусы Падляшша могуць ганарыцца не толькі выдатнымі літаратарамі і дзеячамі, але таксама робатабудаўнікамі, якія рэвалюцыянізуюць сучасны свет!

**Уршуля ШУБЗДА**

# А што там ідзе, а хто там ідзе? Новае...

У суботу час падацца ў родную глыбінку. Вядзе туды некалькі дарог і трэба выбраць маршрут. Адрэзкі паасобных дарог у нас пакуль вельмі рознай якасці, дарогі ў глыбінку рознай якасці і той маршрут наогул прыходзіцца выбіраць наўгад, быццам кідаючы манету.

З Беластока можна кіравацца ў бок Вілаў і Заблудава; выбіраю напрамак у Заблудаў. Побач шашы пракапаны нейкі роў, адбываецца нейкая мадэрнізацыя нашай Польшчы Б, нейкая звышпракладка тае дарогі ў сучасную будучыню; чарговыя прагрэсы прывядуць новыя звышпракладкі нейкай новай тэхнікі...

З Заблудава можна ў бок Міхалова і Гайнаўкі; выбіраю Міхалова. Яшчэ два месяцы раней кіпела там работа па пракладцы новага дарожнага палатна на новай, узмоцненай дарожнай аснове і на некаторых адрэзках рух адбываўся пераменна. Цяпер з Заблудава выходзіць тры-чатыры кіламетры гладкай як стол асфальтоўкі, каля якой яшчэ выконваецца канчатковая касметыка. І ад Пяценкі да Тапалян таксама навюткі насціл.

Міхалова, так як і большасць нашых гарадоў, сям-там раскапанае. Зараз за Міхаловам таксама раскопныя ластаўкі новага насцілу ў бок Юшкавага Груда... Каля Лешукоў дарога ў бок майго хутара завалена гурбамі жоўценькага пяску — праезд тудою немагчымы. Ад Лешукоў у бок Новага Ляўкова капрызная наогул маставая жвіроўкі зараз гладкая. Перад Падляўкоўем пракладзеная гады таму асфальтоўка бакавымі ўхабінамі паступова пагружаецца ў мяккі грунт поймы ракі Нараўкі; далей, цераз Пушчу, свежы яшчэ асфальт у Нараўку.

Мяняю транспартны сродак у адваротным напрамку, чым было нашаму грамадству абяцана дваццаць пяць гадоў таму: з самахода пералажу на ровар. І валакуся назад, упэўнены, што старэйшы сродак перамяшчэння больш надзейны за навейшыя транспартныя выдумкі. Згаданая раней дарога, што выходзіць з Лешукоў у ляшуцкія і стараляўкоўскія хутары, каля найдалейшага ляшуцкага хутара вітае мяне чорным пылам. На гэтым хутары, апусцелым у геркаўскі час, крыху пазней Канстанцін Майсеня быў загарадзіў загараду для гадоўлі дзікоў і на дарогу з Лешукоў быў тады навезены розны насціл з ляўкоўскай цагельні — на гэты адрэзак дарогі быў навезены жужаль з фабрычнай кацельні. Той цяперашні пыл узнімае самазвал, які бярэ пясок з-пад клуні майго суседа. Ужо з аднаго боку збудаванняў пясок забраны ў фабрыку і ў катлаване ўжо стаіць вада; калі выберуць той пясок з усіх бакоў, сусед астанецца на выспе.

Далей, ад мастка на раўчаку, што збірае воды са сплаву, над якім радочкам хатаў красуецца ляшуцкі прысёлак Бакавое, дарога ў Лешукі разрыта. Заходжу ў найбліжэйшую хату, у якой прыхваткамі жыве мой іншы сусед; у іншы час жыве ён у Гайнаўцы. І даведваюся, што сёлета той кавалак дарогі, які ад згаданага мастка да самых Лешукоў, атрымае новы жвіровы насціл; рэшта дарогі атрымае такі насціл на наступны год.



Паўкіламетра далей ад мастка гурбы пяску нівеліруе экскаватар і ўтрамбоўвае дарожны каток. Такога размаху на гэтай дарозе яшчэ я не бачыў. А яна ж, можна сказаць, часткова выводзіла мяне ў свет, каля яе я рос, да яе прылягаў мой хутар. Яшчэ ў тую мінуўшчыну, у якую ледзь сягае мая памяць, адзін з суседзяў ездзіў па ёй возам з валовай цягай. Яшчэ ездзіў па ёй збіральнік непатрэбных ануч, за якія можна было атрымаць нейкія хатнія пасудзіны. І ездзілі па ёй навакольныя сялянскія вазы з рознымі сялянскімі грузамі, найчасцей з сенам і гноем. Край тае дарогі былі палі ды два каўтунчыкі лесу. І быў у яе грунтавы насціл, пакінуты там мабыць яшчэ ледавіком. На пясчаным грунце той насціл сяк-так трымаўся, але каля паўкіламетра ад Лешукоў перасякала дарогу паласа гліны, у якой колы жалезнякоў пакідалі свае глыбокія сляды, якія пераадольваць было і складана, і нават небяспечна, бо пагражала там паломка транспарту. Толькі ў Майсенеў час заглянуў туды дарожны прагрэс у выглядзе жужалю і бракаванай вытворчасці ляўкоўскай цагельні; гэтыя вытворчыя адкіды рабілі дарогу больш устойлівай, менш падатлівай на капрызы надвор'я і нагружаных колаў. Некалькі гадоў таму паявіўся там пласт жвіру. А цяпер будзе там сапраўдная жвіроўка. У напрамку найдалейшых ляшуцкіх хутароў, якія шчыльненька пазарасталі пасадкавым лесам. Што можа быць там далей — не асмелюся гадаць.

У Ляўкове сустракаю двух сяброў па ўзросце. Адзін з іх перабраўся ў Ляўкова з Гайнаўкі, другі збіраецца туды з Беластока — правесці на вёсцы цішэйшыя гады. А маладыя — у другі бок...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Нейкі выбар заўсёды ёсць

Зацікавіў мяне допіс Юркі Буйнюка («Ніва» ад 19 кастрычніка гг.). З аднаой стараны загаловак «Мой горкі хлеб», а з другой — вясёлы аўтар на здымку. Ці горкі хлеб ад пісання допісаў? І чаму ён такі горкі? Мне, каб нешта напісаць, неабходна мець дапрацаваны першы абзац. Часам доўга шукаю, а, вядома, мае ніўскія чытачы нецярпліва чакаюць цікавай інфармацыі з-над мора, ці наватарскіх інтэлектуальных думак. А тут загаловак са здымкам.

Ну так, адступленне адступленнем, але што з допісам Юркі Буйнюка? Крануў ён вырашальную экзістэнцыянальную праблему: як жыць, пані прэм'ер? Нарэшце хтось піша ў «Ніве» пра канкрэтныя жыццёвыя праблемы. Піша Юрка, які вучыўся гадамі, што прачытаў шмат кніжак, «а нашай праклятай дзяржаве напляваць на маю будучыню». Не ведаю, якія Ты добрыя кніжкі чытаў, бо можа не тыя добрыя. Хоць, як кажуць, з кніжак жыцця не навучышся. Праўда, напрамак у жыцці падказаць могуць, але гарантыі не дадуць, што ён будзе задавальняючы. Бо калі б так было, то на зямлі ўсе былі б шчаслівымі, прачытаўшы многа добрых кніжак.

Цяжка мне нешта раіць таленавітаму ніўскаму карэспандэнту. Можа часцей пішы ў «Ніву»? Мора розных жыццёвых праблем чакае, каб іх тут паказаць. Нехта падкажа «як жыць», бо пані прэм'ер вельмі занята агульнадзяржаўнымі праблемамі. У нашым беларускім асяроддзі вырасла вопытнае пакаленне, якое ведае як жыць, бо не наракае, прынамсі на старонках нашага тыднёвіка.

Каб нешта змянілася ў дзяржаве, як піша Пётр Сікора, «Polsce potrzebny jest pilnie nowy impuls etyczny» і «pilnie potrzebna jest solidarność» («Solidarność przez małe s» — «Polityka» nr 44). Але ці да «салідарнасці» можна прымусіць?

Пішаш: «Часам думаю кінуць той праклятым горад ды вярнуцца на вёску».

То не так, што калісь было лепш з выбарам жыццёвага шляху. Калі закончыў я розныя навукі, мой бацька кажа: «Ты, сынок, вучоны, табе будзе лягчэй, новая тэхніка паможа лягчэй жыць на гаспадарцы, бяры гаспадарку і гаспадаруй». Думка някепская, падумаў я. Сілы маю многа, чытаць навучыўся са зразуменнем. Так, буду гаспадарыць. Але на пяці гектарах? Каб прынамсі дваццаць, было б дзе трактар ці камбайн развярнуць на полі. І так я стаў сялянскім у першым пакаленні інтэлігентам з усімі паслядоўнасцямі гэтага выбару. І хоць так як Ты, можа не такія ўдалыя як Тваe, пісаў вершы, праўда, у шуфляду, то заняўся інфарматыкай. Зараз міне сорак гадоў ад тае пары, калі памяняў прафесію.

Глядзі аптымістычна. Нейкі выбар заўсёды ёсць.

Што можна зрабіць зараз? Знайсці некалькі асоб у падобнай сітуацыі і стварыць, напрыклад, таварыства чагосьці там. Закон дазваляе зарэгістраваць таварыства нават з трох асоб. Калі выступаеш да ўлады з рознымі прапановамі, то не выступаеш як Юрка Буйнюк, толькі як грамадства. Інакш рэагуе ўлада на прапановы грамадства, чым нечым незадаволенай асобы.

А перад выбарамі то нават неба хоча прыхіліць. Таварыства можа выйсці, напрыклад, з ініцыятывай паляпшэння жыцця, вядома, грамадству, пры дапамозе розных датацый — еўрапейскіх, дзяржаўных, гарадскіх ці гмінных. Калі выступіш з праектам да ўсіх, можаш нават атрымаць ад іх усіх дапамогу.

Нашы дзеячы з розных таварыстваў ведаюць як гэта аформіць.

Што мог, тое падказаў.

**Міхась КУПТЭЛЬ**

**PS.** Калектыў «Жаваранкі» з Махнатага не мае сваёй песні, якую спяваў бы, напрыклад, на пачатку свайго канцэрта. Думаю, што і іншыя калектывы такой песні не маюць. Затым, Юрка, для Цябе ёсць магчымасць выступіць да адпаведных улад з праектам узбагачэння рэпертуару калектываў, а пры нагодзе — беларускай культуры. Вядома, што каб нешта стварыць, чалавек патрабуе многа энергіі, затым ганарар патрэбны перш за ўсё. Пры нагодзе і для кампазітараў праца знойдзецца.



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Усе рыхтуемся да прадметнага конкурсу!

— Кажуць, што ўсе беларускія шляхі вядуць у „Ніву”?

Спачатку нашы госцейкі не ведалі, што адказаць на гэтае пытанне. Многія з іх упершыню завіталі ў рэдакцыю. Мабыць, і з-за гэтай акалічнасці яны не ведалі, пра што спытаць...

Але тут трэба сказаць добрае слова пра маладых. З увагай слухалі пра гісторыю і жыццё газеты. Важнае месца займаюць тут аўтары і чытачы „Зоркі”, тыя, што па сваёй ініцыятыве і ахвоце пішуць у нашу газету, развіваюць свае здольнасці. Вывучаюць, у даступны спосаб (таксама з дапамогай малюнкаў і здымкаў), асновы журналістыкі. Робяць першыя спробы ў літаратуры, прымаючы ўдзел у літаратурным конкурсе „Дэбют”. Гэтаму спрыяюць таксама гульні і конкурсы, напрыклад, калі рашаем крыжаванкі, папаўняем свой моўны запас.




Гэта ўсё не пустыя забавы, а звычайны выклік часу. Веданне беларускай мовы пашыраецца ў Беластоку. З году ў год яно робіцца ўсё больш моднае і практычнае. Разам мы паглядзелі ролік аднаго кандыдата ў самаўрадавых выбарах. Ён не толькі гаворыць па-беларуску, ён намаўляе задумацца пра шматкультурнасць Беластока. Што гэта значыць шматкультурнасць? Ці можна гаварыць пра культуру беларусаў, адначасова хаваючы ў найглыбейшы закутак беларускую мову? Не, гэта не так. Душа культуры — гэта мова.

Гімназісты нас вельмі станоўча здзівілі. Яны ўсе хочуць прыступіць да прадметнага конкурсу па беларускай мове. Адразу паказалі, што яны — мазгавітая кампанія. Пры тым у гімназіі, на адзінаццаць асоб, толькі адна дзяўчына.

Дар'я тут як сапраўдная аздоба. А і хлопцы не абы-якія: адны музыканты, другія акцёры, трэція дэкламатары і спартсмены. Яшчэ не ведаюць, ці мастацкія захапленні спатрэбяцца ім у жыцці. Напэўна дзякуючы ім шмат навучыліся, запамяталі, пазналі новыя месцы і сяброў. Ды беларуская мова для іх не чужая. Разумеюць яе і любяць на свой спосаб. У час нашай сустрэчы, час ад часу, нехта адазваўся па-беларуску. Мы даведаліся, што цягам бліжэйшых урокаў беластоцкія гімназісты будуць працаваць з казкамі. Свет казак мудры і ўніверсальны. Усе людзі на свеце — дзе б яны не жылі — у Афрыцы ці ў Кітаі, усе цэняць сяброўства, прыгожасць, працавітасць, сумленнасць вынаходлівасць і добры гумар.

— Будзем таксама гаварыць пра Усяслава Чарадзея і Еўфрасінню Полацкую, — адзначыла настаўніца Альжбета Рудкоўская.

Спадзяемся, што ў гэтай задуме дапаможа наш падарунак: беларускі аўдыёбук пад загалоўкам „Адкуль наш род”. Гэтую культавую кніжку, якую ведаюць усе беларусы свету, чытае сам Уладзімір Арлоў. Нашы госці атрымалі таксама беларускія сшыткі з алфавітам, Пагоняй і табліцай множання.

**Фота і тэкст**
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# Добрая рада

*(кабардзінская казка)*

Аднойчы адзін джыгіт сказаў сябрам:

— Калі хочаце, я магу выпіць цэлае мора!

— Такога яшчэ ніхто не змог зрабіць, — адказалі сябры.

— Давайце, пойдзем у заклад, — прапанаваў джыгіт. — Калі не дам рады выпіць, тады аддам свайго каня.

— Добра-добра, — пагадзіліся сябры. Яны таксама далі слова: — Дык калі ты ўжо вып'еш гэтае мора, тады мы аддадзім сваіх коней.

— Згодзен, дамовіліся, — прыпляснуў у ладкі джыгіт. — Прыязджайце раніцай на бераг і там пабачыце як буду выпіваць цэлае-цэлае мора.

Усе падаліся дамоў. Калі наш джыгіт апынуўся ў хаце, вярнуўся яму розум. Ён зразумеў, што няма ў яго шансу выйграць заклад. Як жа выпіць аднаму чалавеку агромністае мора? Сеў і пачаў журыцца. Прыйшоў да яго сусед ды пытае:

— Скажы брат, чаму такі сумны? Нешта здарылася?

— Ой нарабіўся, — махнуў рукой джыгіт. — Зрабіў я вялікае глупства, і ніхто цяпер мне не дапаможа!

— Раскажы, што здарылася? Можа нешта прыдумаем.

— Я паспрачаўся з сябрамі, што заўтра вып'ю цэлае мора. І цяпер не ведаю, што мне рабіць.

— Паслухай, што я табе скажу, — адказаў сусед. — Едзь заўтра на бераг мора, увайдзі ў ваду і скажы сваім сябрам: „Я паабяцаў выпіць цэлае мора і я стрымаю слова. Вы толькі спыніце ўсе рэчкі, якія ўліваюцца ў мора”.

Джыгіт зрабіў так, як параіў сусед. Ён увайшоў у ваду і крыкнуў:

— Я абяцаў выпіць мора і стрымаю свае слова! А вы спыніце ўсе рэчкі, якія ўпадаюць у мора!

— Такога немагчыма зрабіць, — заявілі сябры.

— Я паабяцаў выпіць ваду ў адным моры, а не ўсю ваду, якая ёсць на зямлі!

Сябры нічога не прыдумалі і зразумелі, што джыгіт перамог у іхняй спрэчцы. Яны аддалі яму сваіх коней.

**(пераклад з рускай мовы**
**Ганны КАНДРАЦЮК)**

Ружа КАЛІШУК, Міхалова

## Коцік

Маленькі коцік, беленькі пух.
Ён будзіць мяне ў школу,
Ён вітае мяне штодня,
Развесяляе, калі мне дрэнна.
Ён – мая радасць і шчасце,
Мой маленькі коцік.

Кацярына ХАРКЕВІЧ,
Мацейкава Гара,
школа ў Міхалове

## Дзень нараджэння

У лістападзе весела,
Падаюць лісты вакол,
Тады мой дзень нараджэння.
Дзень вясёлы,
Прыходзяць сяброўкі і сям'я!

# Да шлюбу ехалі коньмі!

Мая бабуля, калі толькі мае магчымасць, штосьці мне апавядае. У апошні час я даведалася як калісьці выглядала вяселле.

Бабуля расказала пра сваё вяселле. Яе муж, а мой дзед, прыехаў у сваты ў вёску Баб'я Гара ў чэрвеньскі суботні вечар 1962 г. Яны так сабе спадабаліся, што ў наступны чацвер узялі ўжо шлюб. Пражылі з сабою цэлае жыццё, у добрыя і дрэнныя хвіліны, аж да смерці дзеда ў 2001 г.

Сёння ўсё выглядае ўжо інакш. Калісьці выходзілі замуж або жаніліся вельмі маладымі, у 15 або 16 гадоў. На вяселле з'язджалася цэлая сям'я, прыязджалі з суседніх вёсак, а нават з-за мяжы. Забава доўжылася цэлы тыдзень.

Перад вяселлем сустракаліся жанчыны, каб пячы каравай. Пры гэтым было многа работы, але ўсе цешыліся і спявалі вясёлыя песні. Першы дзень вяселля адбываўся ў хаце маладой, а на другі дзень усё вяселле перазязджала да маладога. У першы чацвер пасля вяселля ў маладога адбываліся *паразвы*, а ў суботу маладая магла першы раз адведаць свой бацькоўскі дом.



Там таксама гулялі і гасцявалі.

Важным элементам вяселля было абдараванне. Каля маладых ставалі сваты і заклікалі гасцей да даравання. Здаралася, што сват адкрываў падарак і паказваў усім, што госць хацеў падарыць маладым. Найчасцей была гэта пасцель, пасуда, радзюжкі, дываны, а найбагацейшыя госці давалі грошы.

Найцудоўнейшае ва ўсім вяселлі было тое, што да шлюбу ехалі коньмі. Коні і вазы прыбіралі бярозавымі галінкамі і каляровай паперай.

Цяпер штораз старэйшыя дзяўчаты выходзяць замуж. Яны доўга думаюць: выходзіць замуж ці не? Калі ўжо надумаюцца, то да самага вяселля рыхтуюцца цэлымі гадамі. Заказваюць залу і музыкантаў, выбіраюць стравы і дэкарацыі, купляюць касцюмы і сукенкі, многа раней запрашаюць гасцей. І гэта ўсё на адзін дзень.

Калі было лепш? Калісьці людзі нічым не бедавалі і не ведалі, што ёсць штосьці такое як развод.

Я, гледзячы на старыя чорна-белыя здымкі з вяселля маіх дзядоў, магу толькі сказаць, што ўсё гэта выглядала магічна. Я хацела б быць на такім вяселлі і пабачыць гэта на свае вочы.

Дзякую маёй бабулі за цудоўныя расказы, якія пераносяць мяне ў даўнія і, хіба, лепшыя часы. Дзякую за тое, што кожны дзень вучыць мяне як трэба паводзіць сябе ў жыцці і паказвае мне, што сям'я гэта найважнейшая справа для кожнага чалавека.

**Наталля ВАСЬКО,**
**Гімназія ў Нараўцы**

## Загадкі з роднай хаткі

## Увага, конкурс!!! (№ 46-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 30 лістапада, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

У яе, у гэткай дамы,
Усё жыццё на футры плямы,
Вушы змалку з кутасамі.
Хто яна? Скажыце самі.
Р...

(Н. А. Стоpажава)

**2.**

Сакавіты, круглаваты
Здаравяка гэты.
Нам патрэбен на салаты
і на вінагрэты.
Б....

(Міхась Пазьнякоў)

**3.**

Сто братоў
адным пояском
падпяразаны.
С...

(Анатоль Клышка)

**Адказ на загадкі № 43-14: бабёр, жураўлінкі, цыбуля.**

**Узнагароду, кампакт-дыск з фільмамі Радка Дамброўскага „Носьбіты культуры" (між іншым пра Віктара Шведа), выйграла Дамініка Календа з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім. Віншуем!**

*Наталля ГОСЦІК,*
*Саколе, ПШ у Міхалове*

## *Адна*

*Адна, адна, цалкам адна,*
*У гэтым самым месцы,*
*Але ў іншым часе.*
*Адна, адна,*
*Як дрэва на пустыні.*
*Гэтак многа змянілася*
*Ад апошняй восені...*

## Вершы Віктара Шведа

### Усё стварыў нам Бог

Стварыў Бог свет раслінны,
А потым свет звярыны.
І як сваю павіннасць
Стварыў Бог і мужчыну.

Каб ён не быў адзінам —
Стварыў яшчэ й жанчыну.
Бог ёй сказаў па працы:
— Ты будзеш маляваціца.

### Хто муж, а хто жонка?

Тата ў парк пайшоў з Янушкам
У цёплую нядзелю.
На галіначчы дзве птушкі
Са шчэбетам прыселі.

Сынок пытае свайго тату:
— Хто муж з іх, а хто жонка?
Тата сказаў зухавата:
— Жонка чырыкае бясконца.

### Каб не ўкараніліся

— Чаму ў Беластоку
Усе пероны
Усюды навокал
Заліты бетонам?

— Скажу вам шчыра,
Калі здзівіліся,
Каб пасажыры
Не ўкараніліся.

### Пара выйсці замуж

Моцна сварыць доню Ніну
Растрывожана матуля:
— Быць замужняй ты павінна,
А ў цябе ўсё гулі, гулі.

Выглядае нейк нялоўка,
Злосць падсумавала мама.
Разыйшліся ўжо сяброўкі,
Ты яшчэ не выйшла замуж.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 42:

Голуб, на, біт, каскад, сойка, банк, чар, Ас, за, сто, змена. Гімн, сі, сайт, кон, байка, бліск, ткач, азон, бандура.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Магдалена Мішчук, Марыя Баранчук, Зузанна Мішчук з Арэшкава, Кацярына Лаўрашук, Іаанна Нікіцюк, Мальвіна Маркевіч з Бельска-Падляшскага, Уля Марчук, Магда Пташынская з Нараўкі, Юлька Шкляжэўская, Наталля Пашкоўская з Нарвы, Оля Пугацэвіч з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Sport / Etap | | | | | Art | Jak | |
| | | | | Beksa / Garncarz | | | Turysta | |
| | Era / Pióro | | Hart / Kaszka | | | | | |
| | | Kaktus / Szum | | | | | | |
| | Szansa / Pas | | | | | | | |
| Puszcza | | | | | | As | | |
| | | | | | As | | | |
| Damka | | Ar | | | Sto | | | |

№ 46

# XXI Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам

Першыя сустрэчы з беларускім фальклорам адбыліся ў Курашаве і першапачаткова мерапрыемства ладзілася нерэгулярна. Ужо з другой паловы дзевяностых гадоў спатканні з нашым фальклорам арганізуюцца штогод і адбываліся ў Шастакове, Койлах, Кленіках, а найчасцей ладзяцца ў Чыжах, — заявіў Юры Якімюк, дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах.

Фальклорнае мерапрыемства стала ў Чыжоўскай гміне першай пастаяннай беларускай імпрэзай, падчас якой перад сваёй публікай прэзентуюцца калектывы з Чыжоўскай гміны і іншых мясцовасцей, перш за ўсё з беларускім фальклорам. Выступленням спадарожнічае прэзентацыя эстрадных аўтарскіх беларускіх твораў. XXI Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам праходзілі 2 лістапада ў вясковай святліцы ў Чыжах і 8 лістапада ў вясковай святліцы ў Кленіках, у самых вялікіх сёлах Чыжоўскай гміны. Я пабываў у Чыжах, дзе выступілі мясцовыя калектывы і салістка Марта Адамюк з Чыжоўскай гміны, запрэзентаваліся запрошаныя калектывы з Беластока, Гайнаўкі, Дашоў. Публіку захапіла зорка мерапрыемства — Народны хор беларускай песні «Росніца» з Гродна, які наладзіў сяброўства з «Чыжавянамі». Запрэзентаваў ён апрацаваны беларускі фальклор Гродзеншчыны.

Першым выступіў калектыў «Незабудкі» з Курашава, які спявае мясцовыя песні пад акампанемент акардэона.

— Мы заснавалі першы беларускі калектыў у Чыжоўскай гміне, бо «Чыжавяне» малодшыя ад нас. «Незабудкі» выконваюць песні, якія на лавачках спявалі нашы мамы і бабулі. Нядаўна быў у нас перапынак у выступах, бо ў некаторых была жалоба па сямейніках. Зараз мы вярнуліся на сцэну. Цяпер спявае ў нас 5 жанчын пад акампанемент акардэаніста Сяргея Аўксеціюка. Я стараюся яшчэ развесяліць публіку сваімі жартамі. Ужо хваробы чапляюцца да нас, але хочацца яшчэ жыць з песняй, спяваць і выступаць, — сказала кіраўнік «Незабудак» Ніна Грыгарук з Курашава. — Такое мерапрыемства, як сённяшняе, патрэбнае, бо прапагандуецца нашая культура і нашы песні. Асабліва старэйшыя людзі прыходзяць іх слухаць. Паглядзіце, сёння сабралася многа асоб.

Сапраўды сярод сабраных у святліцы найбольш было старэйшых асоб, але былі таксама аматары беларускай песні ў сярэднім узросце, а пазней прыбыло крыху моладзі. Побач войта Юрыя Васілюка, які адкрыў мерапрыемства, прыбылі дырэктар Комплексу школ у Чыжах Міраслаў Пяткевіч і запрошаныя госці. Публіку захапіла салістка Марта Адамюк з Чыжоў, якая прыгожа спявала на літаратурнай беларускай мове. Калі яна вучылася ў Гайнаўскім белліцэі, выступала ў калектыве «Знічка» і ў «Студыі песні ГДК».

— Я вельмі люблю спяваць па-беларуску. Спяванню вучылася я ў Бажэны Ляўчук у Гайнаўскім белліцэі і Марты Грэдаль у Гайнаўскім доме культуры. Зараз, калі я вучуся і жыву ў Варшаве, не хапае мне спявання па-беларуску. Прыязджаю выступаць з беларускімі песнямі ў сваю гміну, — сказала Марта Адамюк.

З тэатральнымі сцэнкамі на сваёй гаворцы цікава выступілі жанчыны з калектыву «Каліна» з Дашоў.

— Наш калектыў дзейнічае з 1978 года, але ў нас быў перапынак. Спяваем неапрацаваныя народныя песні, якія спявалі нашы мамы. Збіраемся паехаць у пачатку наступнага года на фестываль «Беларуская песня», калі нас запросяць. Апошнім часам мы сталі рыхтаваць сцэнкі і гэта атрымліваецца нам лепш, чым спяванне. Калі выступаем з прыдуманымі жартоўнымі здарэннямі, развесяляем публіку, — сказала Зофія Кердалевіч з дашоўскай «Каліны».



«Чыжавяне»



«Незабудкі» з Курашава


Народны хор беларускай песні «Росніца» з Гродна

У Чыжах жанчыны з Дашоў запрэзентавалі дзве сцэнкі: «Бацькаўскае благаславенне» і «Куры». Публіцы выступы «Каліны» моцна спадабаліся, аднак асабліва захапіў яе Народны хор беларускай песні «Росніца» з Гродна, у якім выступаюць прафесійныя спевакі. Заспявалі яны перш за ўсё апрацаваныя народныя беларускія песні.

— Мы не прыехалі ў поўным складзе, але запрэзентуем наш лепшы рэпертуар, стылізаваны фальклор, які асабліва падабаецца беларускай публіцы ў нас, у Беларусі. Хор «Росніца» дзейнічае з 1986 года. У нашым рэпертуары ёсць таксама неапрацаваны беларускі фальклор і аўтарскія беларускія песні, з якімі мы выступаем падчас конкурсаў. Рады мы, што наш хор наладзіў супрацоўніцтва з калектывам «Чыжавяне», якім кіруе Юры Ганевіч з Гродзеншчыны. Мы з ім знаёмыя і папраўдзе гэта дзякуючы Юрыю Ганевічу мы наладзілі супрацоўніцтва з «Чыжавянамі», — сказала арганізацыйны і заадно музычны кіраўнік «Росніцы» Таццяна Бандарэвіч. — Цешыць нас, што тут дзейнічаюць беларускія калектывы, спяваюцца беларускія песні і прапагандуецца беларуская культура. Мы запрасілі «Чыжавян» да нас у госці і папрасілі мясцовыя ўлады забяспечыць паездку.

Вельмі рады супрацоўніцтву з беларускім хорам «Росніца» дырэктар Гміннага асяродка культуры Юры Якімюк, які паведаміў, што запрасіў ужо «Росніцу» на мерапрыемства «Купалінка», якое адбудзецца летам у Ляневе.

— «Росніца» выступала ў нас два разы і мы разлічваем на паездку ў Гродна па запрашэнні гродзенскага калектыву. Цікава пазнаёміцца з хорам і яго дзейнасцю, пабываць на беларускіх мерапрыемствах у Гродне, — сказаў Яраслаў Бялькевіч з калектыву «Чыжавяне». — Зараз у нашым калектыве спявае 8 асоб. Мы найчасцей выступаем з апрацаванымі народнымі песнямі і аўтарскімі беларускімі творамі. У рэпертуары маем таксама неапрацаваны фальклор. Сёння выступім з беларускімі песнямі і творамі на іншых мовах.

— Вельмі складана будзе нам сёння выступаць, калі мы выходзім перад публіку адразу пасля займальнага выступу «Росніцы», але паспрабуем паказаць наш разнародны рэпертуар, — заявіў музычны кіраўнік калектыву «Чыжавяне» Юры Ганевіч.

«Чыжавяне» запрэзентаваліся цікава і на прыстойным узроўні, што выклікала зацікаўленне ў жыхароў Чыжоўскай гміны. Пазней выступіў калектыў мясцовага гуртка пенсіянераў і інвалідаў «Верасы».

— Мы дзейнічаем ужо два гады і выступалі ў многіх месцах. Прэзентуем перш за ўсё песні, якія ў нашых вёсках спяваліся ў мінулым. 1 чэрвеня гэтага года нам была прысвоена назва «Верасы». Зараз у нас 12 спевакоў, у тым ліку 4 мужчыны, — сказала Ірэна Раманюк са Збуча. — Сёння цікава нам выступіць перад сваёй публікай. Цікава таксама паглядзець выступленні іншых калектываў. Гэтае мерапрыемства прыжылося ўжо ў нашай гміне і стварае добрую нагоду для абмену вопытам.

«Калінка» з Залук і «Гай» з Беластока запрэзентавалі эстрадныя і народныя песні. Беларускі гурт «Метро» з Гайнаўкі стараўся развесяліць публіку. Яго члены не скрываюць, што ў іх рэпертуары многа забаўляльнай музыкі, паколькі выступаюць на забавах і сямейных мерапрыемствах. «Метро» ахвотна прэзентуецца падчас летніх беларускіх мерапрыемстваў, хаця б тых, якія ладзіць Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы. Паўліна Паўлючук-Коська ўдала вяла канферанс — заказвала выступленні паасобных калектываў і расказвала пра іх дзейнасць.

— Пасля выступаў я іду дамоў. Сёння нядзеля, трэба выспацца і заўтра ехаць на працу. 8 лістапада ў Кленіках будзе працяг нашага мерапрыемства. Гэта будзе субота і тады можна будзе таксама супольна пагасцяваць, — сказаў спявак з мясцовага калектыву.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Ляўкоўскі прыход быў вялікі (ч. ІІ)

Размова з настаяцелем Ляўкоўскага прыхода, айцом мітратам **Леанідам ЯНКОЎСКІМ**.



Царква ў Старым Ляўкове



Капітэль вонкавай калоны ляўкоўскай царквы

**— А што рабілася з царквою ў Ваш час?**

— Царква была напачатку памалявана, былі куплены аблачэнні. Пеўчыя закалядавалі грошы на куплю еўхарыстычных прыбораў. Абгарадзілі царкву. Пасля правялі капітальны рамонт, бо мы думалі, што нам абселі падрубы. Бацюшка Мікалай Чурак абтынкаваў быў фундамент; выглядала гэта прыгожа, але забылі пра адну важную акалічнасць: царква стаяла на камянях і продухі не былі патрэбныя, а калі абтынкавалі, паветра перастала даходзіць у аснову царквы і адна старана села. Мы рашылі мяняць падрубы. Да таго ж бэлькі заатакаваў грыб. Таму быў капітальны рамонт, сарвалі ўсю падлогу. А аказалася, што падваліны асталіся здаровыя, а падпоркі пад брусы былі з цэглы, толькі змацаваныя не цэментам, але глінай. А калі не стала продухі, тады гліна села і селі брусы. Паставілі мы тады бетонныя падпоркі, памянялі бэльку, для якой драўніну тартак у Навасадах завёз аж з Сібіры. І аснашчэнне таксама ж трэба абнаўляць...

У 1976 годзе, калі пачалася пабудова Семянючскага вадаёма, прыход стаў меншаць — стала раз'язджацца Лука, людзі ўзрадаваліся, што ў горадзе атрымаюць кватэры ў блоках. Але Канстанцін Самоцік і Мікалай Стоцкі цвёрда сталі за тое, што яны нікуды з Лукі не паедуць, яны ездзілі ў розныя ўстановы і дамагліся таго, што вёска асталася. У міжчасе, у 1983 годзе, я моцна пацярпеў у дарожным выпадку. І я даў тады зарок, што калі выйду з ран, то ў Луцэ пастараюся паставіць царкоўку як помнік выселеным. І ў 1996 годзе пасвяцілі там пляц: дакупілі ад гміны за сімвалічную залатоўку два ўчасткі да трох, якія атрымалі за забраную царкоўную маёмасць. У 1999 годзе Уладыка паклаў краевугольны камень і ў 2005 годзе было асвячэнне лучанскай капліцы. У Новай Луцэ было асталося тады восем сем'яў.

**— А часта ў Луцэ правіце службу?**

— Стараемся ў кожную нядзелю, але не заўсёды ўдаецца. Служым там акафісты, вячэрні.

**— Многа людзей туды прыходзіць?**

— У перыяд водпускаў прыходзіць па дваццаць асоб, часам трыццаць. А ў іншы час то па шэсць, чатыры, дзве асобы.

**— З Лукі і Слабодкі?**

— Толькі з Лукі. Слабодка прыязджае толькі як нешта асвячаем, напрыклад на Спленне. Шмат людзей з'яўляецца, калі там свята прарока Ільі і Узнясенне Гасподняе. На Узнясенне менш, але на Ільлю з кожным годам штораз больш людзей прыязджае.

**— А чаму там свята прысвечанае прароку Ільлю?**

— Я хацеў, каб там быў храм, прысвечаны Серафіму Сароўскаму. Спаткаўся я з людзьмі і прапаную ім гэта. А людзі кажуць: „Не, бацюшка, мы таго святога не знаем, але хочам, каб у нас было такое свята, на якое можна было б прыйсці ў летняй вопратцы, у кашулях з кароткімі рукавамі". Я тады запрапанаваў свята ў дзень прарока Ільі — і гэта ўсім спадабалася. І так асталося; а ў навакollі нідзе гэтае свята не святкуецца.

У 1967 годзе на могілках за Новым Ляўковам быў пабудаваны морг — тады быў іншы час, не дазвалялі будаваць цэркваў. І тая капліčка атрымалася малая: калі паставіць там труну, то не хапала месца на службу. Трэба было яе разбудаваць, атрымалі мы дазвол, апрацавалі праект і пачалі разбудову тае царкоўкі, якая зараз праводзіцца. Калі ўсё добра пойдзе, то тая царкоўка будзе мець 16 метраў даўжыні і 9 метраў найбольшай шырыні, будзе большы алтар. Прыхільна да нас паставіўся керамічны завод, даючы нам усю цэглу, добрыя людзі ахвяравалі цэмент, адна жанчына купіла купалы, якія з крыжамі былі прывезены з Украіны; яна таксама шмат ахвяроўвае на іканастас.

**— Вы тут прысвяцілі шмат месца Луцэ. У Ваш час гэтая вёска раз'язджалася па свеце. Вы мелі кантакт з яе жыхарамі. Як яны ставіліся да таго, што іх выжывалі з нажытага імі месца?**

— Людзі не вельмі адкрываліся са сваім стаўленнем да гэтых змен. Але здаецца, што яны аптымістычна глядзелі ў будучыню, шмат спадзяваліся ад новай сітуацыі. Каму была Лука дарагая, тыя асталіся. Аднак цяпер, здаецца, прыходзіць момант рэфлексіі, пачуццё страты. У прынцыпе выселеныя людзі атрымалі мала; адзін, вось, за атрыманую выручку ад гаспадаркі купіў сабе фургон „Жук". Рассыпаліся яны па наваколлі, найбольш пажылых людзей падалося ў Бандары, шмат у Міхалова, Беласток. І шмат з тых, што былі пакінулі Луку, зараз купляюць участкі на бацькаўшчыне, плацячы цяпер вялікія грошы.

**— А ці вяртаюцца яны на могілкі?**

— Так, наведваюць могілкі, ды хаваюць тут сваіх пакойнікаў. Дзеля іх мы і пачалі разбудову капліцы. Бо, для прыкладу, катафалк з Беластока прывязе пакойніка ў нашу царкву і вяртаецца ў Беласток. На другі дзень той жа катафалк зноў прыязджае, каб завезці пакойніка на могілкі; а праезды шмат каштуюць. А калі будзе адпаведная капліца, тады пакойніка прывязуць туды, там ён астанецца нанач і на другі дзень труну можна занесці да магілы ўручную — будзе шмат танней.

Пра прыход магу сказаць толькі добрае, людзі тут дружныя, да царквы і веры ставяцца з павагай. Калі я прыняў прыход у 1976 годзе, было ў ім 565 сем'яў, 1850 душ. Працавалі тры васьмікласавыя школы і дзве пяцігодкі. Шэсцьсот дзяцей вучылася ў трох падставоўках: у Лешуках, Луцэ і Ляўкове. Зараз на тэрыторыі прыхода няма ніводнай школы, а дзяцей асталася жменька. Бывала, што вянчаў па дваццаць-трыццаць пар у год, а цяпер дзве. Хрысціў па трыццаць-сорак дзяцей, а цяпер трое-чацвёра, якіх прывязуць з Ірландыі ці Бельгіі і вязуць іх зноў туды. У дакументах яны ёсць, але ў наяўнасці іх няма. Цяпер маем 256 сем'яў, у якіх 458 душ. Ды якія гэта сем'і? Адна або дзве асобы. Калі дзедка памрэ, то бабулю забіраюць і вязуць у Беласток: прывязуць, як буслы прылятаюць, і забіраюць, як буслы адлятаюць. А хаты астаюцца пустыя. Вось нядаўна было тры пахавіны і тры хаты апусцелі. А была ж калісь такая вёска як Лешукі, вялікая, дзе былі добрыя гаспадары. А цяпер што там асталося? Быў час, што ў Лешуках было сорак удавіц і сорак бабылёў, якіх у апошнія гады мо з дзесяць пахаваў, бо пазапіваліся...

А парафія ў цэласці добрая, людзі ўражлівыя. Мне раней, калі яшчэ жыло старанлівае старэйшае пакаленне, здавалася, што калі яно адыдзе, то пра царкву не будзе каму клапаціцца. Але прыйшло чарговае пакаленне і яно вельмі дбае пра царкву, турбуецца за яе выгляд. Шмат памагае нам войт, вядома — не грашамі, бо наша царква не з'яўляецца помнікам даўніны. Але многа памагае парадамі, калі дзе што трэба аформіць то падкажа, і паможа прайсці куды трэба, напрыклад падказаў нам, як карысна прыдбаць цэмент для рамантаванай капліцы; не ўсё зводзіцца да грошай.

**— А ў тое, што людзі аглядаюцца не адно на грошы, але і на нематэрыяльныя, духовыя вартасці, напэўна свой уклад унёс і мясцовы пастыр.**

— Я стараюся жыць з людзьмі адным духам, раздзяляць іх радасці і турботы.

**— Мяне, як выхадца з Ляўкоўскага прыхода, гэта вельмі радуе і дзякую Вам за гэта. І дзякую Вам таксама за размову і жадаю Божага блаславенства Вашым пастырскім і асабістым справам.**



Капліца ў Новай Луцэ

Размаўляў Аляксандр **ВЯРБІЦКІ**


Вольга Утко на магіле продкаў

# Забытая дзядоўская вячэра

Першае лістапада — Усіх святых паводле каталіцкага календара. У той дзень у нашай краіне кожны вымушаны ісці на могільнік з кветкамі і знічамі. Ідуць каталіцкія і праваслаўныя — у гэтых другіх святочны расход вялікшы, бо яшчэ трэба заплаціць за індывідуальнае асвячэнне магілы. У Крынках знайшліся такія, якія панеслі свечкі нават і на кіркут, парушаючы гэтым самым спрадвечныя яўрэйскія абычаі. Усё гэта пры гучным акампанеменце сродкаў масавай інфармацыі. Сігналы незадавальнення ад патрывожаных рэзідэнтаў крынскага кіркута паявіліся неадкладна. Адзінокую жанчыну, якая пражывае ў старой жыдоўскай хаце ў цэнтры мястэчка, наведалі душы колішніх гаспадароў.

— А то лыжка ў шклянцы ўначы звініць, а то нейкая энергія ў спіну ўдарыць, — скардзіцца напалоханая сведка здарэння. Хтось падказаў, што можна няпрошаных гасцей — былых гаспадароў — выдварыць з дапамогай недапаленых у царкве свечак. Якраз спакой у хаце сур'ёзна напалоханай жанчыны навяла падораная ёй сябрамі святая вада з Пачаева.

Вернемся зноў да тэмы традыцый памінання памерлых. Усе ў Крынках і наваколлі ведаюць, што такое Święto Zmarłych ці Dzień Zaduszny, але Дзядоў не ведае ніхто. А менавіта так называлі калісь, між іншым, у Слоі, што ў Шудзялаўскай гміне, восеньскі дзень памінання продкаў. Калісь царкоўныя людзі адзначалі іх у Дзмітрыеўскую суботу.

— Дзімітра, — кажа шасцідзесяцігадовы карэнны жыхар Слоі, — гэта ў нашага зяця ў Саках святкуюць. Там фэст вялікі, магілы асвячаюць, а ў нас толькі Пятра і Паўла спраўляюць. Ніякага Дзімітра ні Дзядоў тут ніколі не было.

Нават і дзевяностагадовыя слаянскія бабулі помняць толькі, што Дзяды спраўлялі восенню, што сваякі збіраліся на ўрачыстай вячэры ў памяць продкаў, якая не магла абысціся без бульбяной бабкі. Што гаварылася за сталом, ці былі яшчэ нейкія іншыя стравы — гэтага яны ўзгадаць не ў змозе.

У кніжцы доктар Гражыны Харытанюк-Міхей „Obrzęd dziadów w dokumentach i w cyklu Mickiewicza" (Slawistyczny Ośrodek Wydawniczy, Warszawa 2011) чытаем, што існавалі розніцы ў святкаванні Дзядоў у паасобных паветах Заходняй Беларусі. У Бельскім і Берасцейскім уездах называлі іх памінальніцамі і былі яны хрысціянскія па характары, так як хаця адзін сямейнік павінен прыйсці ў той дзень у царкву з харчом для асвячэння. У выпадку, між іншым, Гродзенскага, Ваўкавыскага і Слонімскага ўездаў дзяды праходзілі за мяжой царквы. Галоўнай часткай святкавання была тут вячэра ў хаце.

Крынкі, так як і недалёкая Слоя, знаходзіліся на тэрыторыі Гродзенскага ўезда. Па сёння некаторыя жыхары гэтай вёскі, едучы асвячаць магілы на Радуніцу, бяруць з сабой пачастунак. Часта атрымліваецца ім гэта зусім падсвядома.

— От, бярэм ежу і спажываем на могільніку, бо есці хочацца, бо няма чым заняцца у доўгі перапынак паміж радаўнічнай службай у царкве, а асвячэннем магіл. Бацюшка ідзе на абед дахаты, а мы ямо тут, — кажуць ананімныя суразмоўцы.

Калісь верылі, што Радуніца гэта час, у якім частуюць нябожчыкаў на могільніку, але на Дзяды душы заўсёды прыходзілі на вячэру ў родную хату.

Гаспадары сур'ёзна рыхтаваліся да гэтай падзеі, бо ж прыходзяць святыя госці з таго свету, якія заўсёды за нас клапоцяцца, дапамагаюць, сумуюць, хіба што хтосьці іх пакрыўдзіць, тады адварочваюцца. Таму, між іншым, прыбіралі хату і дакладна мылі пасуду. Страў варылі колькі хто змог. Каб аказаць душам сваю шчодрасць, гаспадары рыхтавалі на той дзень усякія мясныя вырабы, на стале часта паяўлялася галава хатняй жывіны. Былі таксама бліны, клёцкі, чарка, а ў Слоі — бульбяная бабка. Яе рэцэпт здрадзіла нам дзевяностагадовая жыхарка вёскі Вольга Утко:

— Церлі картоплю, калі зімовая то яна гушчэйшая, а як спешка, то трэба было ее крыху адцадзіць. Скварылі скваркі з цыбуляю, убівалі пару яйкаў, сыпалі соль. Калісь дабаўлялі жменьку грэцкай мукі, якую самі з грэчкі малолі. Цяпер няма такой мукі і яе заступаюць пшанічнай. Усё гэта мяшалі і ставілі ў печку, найчасцей разам з хлебам.

Пакліканым душам гаспадыня ставіла асобную талерку, у якую клала ўсё, што было на стале. Пры грамнічнай свечцы, слабым святле запаленай лучыны і прыадчыненых дзвярах бяседнікі дзяліліся выключна пазітыўнымі ўспамінамі аб запрошаных на вячэру продках і спадзяваліся на іх заступніцтва і далейшую дапамогу ў нялёгкім зямным існаванні.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН




## www.radiobelarus.tvr.by

Ужо даўно нікога не здзіўляе, што беларускай дзяржаве не надта залежыць на распаўсюдзе па свеце беларускага слова. Прычына тут перш за ўсё ў палітыцы. Калі беларуская мова ледзьве дыхае ў Беларусі і трымаецца з большага толькі на апантаных руплііўцах-валанцёрах, то што можна патрабаваць ад беларускіх дыпламатычных місій у іншых краінах? Прапаганды беларускага слова ў іх працы практычна няма.

Адметна, што і сярод беларускіх дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, якія працуюць на замежжа, навучанне беларускай мове і заахвочванне выкарыстання яе ў асяродку замежных беларусаў таксама недзе на апошніх месцах. Адным з прыкладаў такога стаўлення можна прывесці „Радыё Беларусь", сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://www.radiobelarus.tvr.by/be.

Гэтае радыё ад пачатку свайго існавання было арыентавана на беларускую замежную аўдыторыю. „Нашы пазыўныя на кароткіх хвалях гучаць у міжнародным эфіры з 11 мая 1962 года. Першапачаткова перадачы былі толькі на беларускай мове, а ў 1998 годзе радыё пачулі на рускай і англійскай мовах. З 2006 года радыё пачало вяшчанне на польскай мове. З 2010 года ў эфір сталі выходзіць праграмы на французскай і іспанскай мовах, а ў 2012 — на кітайскай", — распавядаецца пра радыё на аднайменнай падрубрыцы. Цікава, што на ўсіх сямі іншамоўных версіях сайта ўзгадваецца яшчэ пра пачатак з 1985 года вяшчання па-нямецку, але ў беларускамоўнай пра гэта не паведамляецца. І гэта толькі першы факт нядбайнага стаўлення да беларускай мовы на сайце „Радыё Беларусь".

Другі, найбольш прыкры мы знойдзем на старонцы „Праекты" ў падрубрыцы „Урокі беларускай мовы". На першы погляд усё там выдатна і слушна. „Мова — душа народа, люстэрка яго жыцця і ўмова існавання нацыі! Тых, каму даспадобы мілагучнасць і спеўнасць беларускае мовы, каго чаруе хараство беларускага краю, вабяць беларускія нацыянальныя звычаі і захапляе мастацкае Слова, мы ласкава запрашаем вывучаць беларускую мову разам з намі!" — натхнёна распавядаюць спачатку ўладальнікі „Радыё Беларусь", а гэта — супрацоўнікі Белтэлерадыёкампаніі.

Аднак далей яны бязбожна крывяць душой, выдаючы нечыя фантазіі, пераверчаныя з паўпраўдай, за рэчаіснасць. „Беларуская мова займае значнае месца ў беларускім грамадстве, з'яўляючыся сімвалам нашай адметнасці. Беларуская мова жыве ў афіцыйных паперах і вулічных шыльдах. Яе выкладаюць у школах, і кожны беларус валодае ёй. Без ведання беларускай мовы не абысціся, калі вы бываеце ў Беларусі або цікавіцеся беларускай літаратурай і культурай. Нашыя ўрокі не будуць абмяжоўвацца толькі вывучэннем лексіка-граматычнага матэрыялу. Разам з гэтым, Вы атрымаеце магчымасць пазнаёміцца з беларускімі традыцыямі і абрадамі, пачуць урыўкі з выбітных твораў беларускай літаратуры і многае іншае... Акрамя таго, нашыя аўдыё-ўрокі можна спампаваць з гэтай старонкі!" — сцвярджаецца на „гэтай старонцы". Праўда, спампаваць ніякіх аўдыё-ўрокаў ні з той, ні з „гэтай старонкі" немагчыма, бо „Страница не найдена" адказвае нам сайт псеўдапапулярных прыхільнікаў беларускай мовы з „Радыё Беларусь", калі мы клікнем на слова „спампаваць".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



### Дзекабрыст з Беласточчыны

## 220 гадоў з дня нараджэння Міхала Рукевіча

Змагар супраць расейскага самаўладдзя Міхал Рукевіч, прозвішча якога невядомае бальшыні беларусаў, нарадзіўся 12 лістапада 1794 г. (якраз у год касцюшкаўскага паўстання!) у маёнтку Гожна на Беласточчыне. Праўда, дакладнае месца яго нараджэння і нават год (іншыя крыніцы падаюць 1796 г.) застаюцца пад пытаннем. Паходзіў з беларускай шляхты. Вядома, што разам са сваімі сёстрамі меў у Беластоку ў валоданні дом.

Васемнаццацігадовым Міхал Рукевіч, спадзеючыся на аднаўленне незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, ваяваў пад штандарамі з Пагоняй у гэтак званых „літоўскіх войсках" Напалеона, дзе служыла 25 тысяч нашых суайчыннікаў. Праз дзесяць гадоў Рукевіч пісаў у адным са сваіх польскамоўных вершаў: „Дык калі паклічуць трубы Нас у сонечны прасцяг, Дружна ўздымем вальнаю бы Мы з Пагоняй нашай сцяг!" (пераклад Кастуся Цвіркі).

У 1814 г. Міхал Рукевіч трапіў у палон на тэрыторыі Францыі. Вярнуўшыся з палону, ён вучыўся ў Віленскім універсітэце, удзельнічаў у таемным патрыятычным таварыстве філаматаў, стварыў з аднадумцамі яго філіі — таварыствы прамяністых і філарэтаў. Напісаў адмысловую „Малітву прамяністых". Потым у 1820 г. разам з Зыгмунтам Навіцкім стварыў у Беластоцкай гімназіі падпольную арганізацыю „Згодных братоў" (з 1923 г. яна звалася „Заране"), сябры якой, навучэнцы Беластоцкай і Свіслацкай гімназій, марылі пра вызваленне радзімы ад расейскага панавання. Вядома, што некаторы час Рукевіч жыў у Мількаўшчыне паблізу Гродна — мясціне, дзе нарадзілася Эліза Ажэшка. У 1823-1824 гг. Міхал Рукевіч быў арыштаваны па справе філаматаў і філарэтаў, але ўрэшце вызвалены за недастатковасцю доказаў удзелу ў гэтай арганізацыі.

У 1825 г. частка „заранаў" увайшла ў склад узніклага па ініцыятыве Рукевіча (які жыў у вёсцы Завыкі пад Беластокам) рэвалюцыйнага таварыства „Ваенныя сябры". Ужо сама назва сведчыла, што тут месца ранейшых летуценняў занялі канкрэтныя і небяспечныя для ўлад справы. Арганізацыя складалася з мясцовых чыноўнікаў, гімназістаў, шляхціцаў, а найперш з афіцэраў і нават жаўнераў размешчанага на Гарадзеншчыне і Беласточчыне „Літоўскага асобнага корпуса" царскай арміі. У ліку кіраўнікоў „Ваенных сяброў" быў капітан Канстанцін Ігельстром, які трымаў сувязь з расейскім дзекабрыстам Вільгельмам Кюхельбекерам. Рукевіч быў галоўным натхняльнікам „Літоўскага пінернага батальёна выступлення 1825".

Праз дзесяць дзён пасля паўстання дзекабрыстаў у Пецярбургу „Ваенныя сябры" сарвалі прысягу цару Мікалаю І у сапёрным батальёне, дзе адной з рот камандаваў Ігельстром. На большае сіл не было. Рукевіч сярод іншых быў арыштаваны і засуджаны да смяротнага пакарання. Аднак, паводле царскай канфірмацыі 1827 г., яно было заменена на 10 гадоў катаргі ў Сібіры. Рукевіча таксама пазбавілі шляхецкіх правоў. Катаргу адбываў разам з дзекабрыстамі ў Чыце, а з 1830 г. — на сумнавядомым Пятроўскім заводзе ў Забайкаллі. У 1833 г. пераведзены на пасяленне ў вёску Коркіна. На радзіму Міхал Рукевіч ужо не вярнуўся. Памёр ён на чужыне 11 верасня 1841 года.

Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч

# На лавачцы побач помніка Купалу

Калі гляджу на здымак з урачыстасці адкрыцця помніка, прысвечанага памяці Янкі Купалы, якая адбылася ў 2007 годзе, то даходжу да вываду, што вандалы не падкапалі падмурка вялікага валуна, як я калісь думаў, а проста зрабілі гэта час і прырода. Мабыць, спешка была прычынай таго, што падмурак быў выкананы нядбайна. Калі мы звярнулі ўвагу ўладам горада, што помнік неўзабаве зваліцца, то пасля некалькіх дзён экіпа Управы дарог і зелені г. Гданьска салідна забяспечыла падмурак і трэба мець надзею, што яшчэ многа гадоў беларусы будуць сустракацца ў гэтым прыгожым кутку Гданьска пры розных нагодах і проста без нагоды.

Мне проста хацелася туды паехаць. Быў прыгожы сонечны кастрычніцкі дзень, якраз прыгодны для экскурсіі з далёкага Бродвіна ў Аліву. Для пажылога сеніёра гэта шматгадзінная падарожжа, так як, калі можна так сказаць, для Уладзіміра Сідарука падарожжа ў Беласток.

Я быў цікавы, ці жыхары навакольных дамоў, якія міналі мяне, адпачываючага пасля знясільваючага падарожжа на лавачцы побач помніка, ведаюць каму ён прысвечаны.

Малады чалавек, можа студэнт, а можа працаўнік на «смеццевай» пасадзе, з сабачкам, сказаў, што не ведае: «Я толькі прыехаў да дзеда, каб сабачку за патрэбай вывесці на двор». Добры ўнучак.

Мужчына, сярэдняга ўзросту: «Вуліца Купалы, так напісана на ўказальніку, то пэўна і помнік яму прысвечаны».

Усе дзесьці спяшаліся, адказвалі па-сучаснаму, адзіночнымі словамі, так як і я ў э-мейлах у рэдакцыю. Статыстычна ўзяўшы, знаёмасць месца невялікая.

У той дзень усё ж такі мне пашанцавала, бо калі я вяртаўся з Алівы праз Сопат, падумаў пасядзець на лавачцы пры слаўным моле. Не так часта туды заязджаю і адпачываю. Мінаючы Дзяржаўную мастацкую галерэю, пабачыў знаёмыя, характэрныя колеры на плакаце, які заахвочваў наведаць выставу знакамітага мастака Лявона Тарасэвіча. Адпачынак на лавачцы адкладваю на чарговы раз. Абавязкова трэба мне паглядзець выставу карцін Лявона Тарасэвіча з калекцый Кшыштафа Мусяла, Тадэвуша Чыўчынскага і Музея акадэміі мастацтва ў Варшаве. Ад пачатку, калі толькі Тарасэвіч стаў графічна афармляць студэнцкі часопіс «Сустрэчы», казаў я беларускім сябрам, што Тарасэвіч гэта не толькі талент, гэта мастак. Гляньце на яго «крэску», толькі артыст так рысуе. Інтуіцыя мяне не падвяла. Альбом выставы падарыў я, дзеля інспірацыі, іншаму таленавітаму артысту, якога для мастацтва выявіў я на падставе так званай мастацкай «крэскі».

Тэкст і фота Міхася КУПТЭЛЯ



# Адгаданка

1. напрыклад, „Аіда" або „Кветка шчасця", 2. жоўта-зялёная вадкасць у печані, 3. вакальна-інструментальнае мастацтва, 4. прозвішча беларускага першадрукара, 5. Этэль Лілян, ірландска-англійская пісьменніца, аўтарка „Авадня" (1864-1960), 6. ветраны млын, 7. прадмет, 8. спартыўны кулачны бой, 9. жорсткі прыгнятальнік, 10. бязбілетны пасажыр на... беларускай аднарублёўцы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 43 нумара**

Буй, гумно, зіма, пучок, шост.

Рашэнне: **З пустой бочкі многа шуму**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 16.11 — 22.11

**(22.03. — 20.04.)** У фінансах лёгкая завіруха. Мноства аплат і рахункаў, старайся не пазычаць грошай, браць крэдытаў. 16-20.11. прадбачваюцца лёсавыя здарэнні і нямілыя акалічнасці, на якія не будзеш мець уплыву. Захавай халаднакроўе! Хтось несумленны ўвесь час цікуе на гарызонце. 19-23.11. будзеш дзейнічаць хутка, канкрэтна і паслядоўна.

**(21.04. — 21.05.)** Прыйдзецца афармляць важныя, неадкладныя справы, можа звязаныя з падарожжам (будзе плённае, пазнаёмішся з вельмі добрымі людзьмі). Але 18-22.11. у кімсьці сур'ёзна расчаруешся, будзеш шкадаваць, што так доўга дазволіў сябе падманваць. Паддаванне ілюзіям і няўпэўненасць.

**(22.05. — 22.06.)** Набярэш ахвоты на змены ў сваім атачэнні, адрамантуй штосьці або прынамсі перастаў мэблю. Кантралюй сваё здароўе, наведай лекара, парабі абследаванні. Добры час таксама на рэгенерацыю, дбанне аб сваю красу. Дасі раду з навалам працы. 15-19.11. — кепскі час на перагаворы і важныя размовы. Недахоп паразумення ў пары можа лучыцца са стратамі ў справах, на якіх табе вельмі залежыць.

**(23.06. — 23.07.)** 16.11. не вырашай важнага. Не будзеш наракаць на здароўе, але пільнуй сваё горла, цёпла апранайся. Нават калі прыйдзецца стануць перад чымсьці цяжкім, без праблем дасі рады. Працуй няспешна, паслядоўна і цярпліва, прытым найлепш у калектыве (можаш яго стварыць).

**(24.07. — 23.08.)** Маеш шанц пазнаёміцца з братняй душой. Але 18-22.11. асоба, якую любіш, можа пачне матаць і круціць, можаш страціць да яе давер. Ды свет не канчаецца на адной асобе! — неўзабаве перакананешся. 16-20.11. не дай сябе звесці камусь, хто ў адносінах да цябе не мае чыстых намераў; не раскрывайся лішне і не давярай. 19-23.11. можаш адчуць сябе пакрыўджаным і расчараваным; нічога не раздумвай, працягні руку да згоды. З 22.11 будзеш радасны, поўны энергіі і сімпатыі да іншых, удадуцца твае перспектыўныя планы.

**(24.08. — 23.09.)** 19-23.11. можаш непатрэбна ўлезці ў дыскусію. Але агульна не павінны пагражаць табе канфлікты. Да 20.11. будзеш жыццярадасны, энергічны. 19-23.11. схочацца табе крыху пашалець. Рабі мілай табе асобе сюрпрызы і дробныя прыемнасці. Хаця з 21.11. (да 25.11.) цяжка будзе табе стрымаць абяцанні. Старайся адкладваць грошы.

**(24.09. — 23.10.)** Можаш атрымаць цікавыя прапановы падзарабіць. 18-22.11. лепш не паддавайся медычным і касметычным працэдурам. 18-22.11. можаш не высветліць ніякіх спраў, а нават закалапуцькацца ў мёртвай кропцы; не вырашай аб важным, не бярыся за сур'ёзнае, каб не памыліцца.

**(24.10. — 22.11.)** 15-18.11. — умеласць расшыфроўвання чужых намераў, добры час на бізнесавыя прыёмы і цяжкія размовы, якіх вынік будзе для цябе ўдалым. Але 18-22.11. можа быць цяжкі час у пары; будзеш раздражнены, выбуховы. Затое талкова можаш пасядзець на дыеце (да 28.11.). Рабі інвестыцыйныя планы, запішыся на курсы павышэння кваліфікацыі. Не насі з сабою многа грошай, не згубі каштоўнага.

**(23.11. — 22.12.)** Пачуццё здзяйснення, паўнаты. Лёгка дасі сябе парваць жарснасці. Для сям'і будзеш як анёл, хаця 18-22.11. падкусіць яна твой давер. Хатнія справы набяруць тэмпу. Вельмі добры час на папраўлянне сваёй красы.

**(23.12. — 20.01.)** 16-20.11. будуць дакучаць табе сумненні, хандра, песімізм; ненайлепшы час на падарожжы, важныя размовы; пільнуйся! Але някепская фізічная форма. Усё ж, калі цябе будзе штосьці трывожыць, не адкладвай візіту ў спецыяліста. У фінансах нябілага, хаця хтосьці з хатніх можа няўмысна падвяргнуць хатні бюджэт стратам і прыйдзецца плаціць чужыя рахункі.

**(21.01. — 19.02.)** 15-17.11. асаблівая лучнасць з блізкай асобай. Будзеш вельмі чулым, рамантычным каханкам. Але ж 15-19.11. сямейная спрэчка можа разбурыць тваё пачуццё бяспекі. Усё ж будзеш аптымістам. Штораз лепшыя фінансавыя перспектывы. У другой палове лістапада маеш шчасце: можаш выйграць у латарэю, атрымаць спадчыну, дарагі падарунак. Без праблем здабудзеш грошы!

**(20.02. — 21.03.)** Лёгка пазнаёмішся з кімсьці цікавым. Распірае цябе энергія, справішся з парадкам, рамонтам, знойдзеш штосьці даўно схаванае. Фартуна, хоць не лішне шчодрая, цябе не пакіне. Лепш ацэніш сітуацыю, адкінеш неістотнае, засяродзішся на важным.

Агата АРЛЯНСКАЯ


Ніва PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2015 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.



Ганка Грэсюк і Райка Матысюк (трэцяя і чацвёртая злева) найлепш памятаюць гісторыю

# У СЕМЯНОЎЦЫ ВОБРАЗ І СЛОВА

*Семяноўку ў добрым месцы пабудавалі: жалезная дарога з Варшавы ў Свіслач тут вядзе.* У добры час — 25 кастрычніка — успамінаем словы з верша Галіны Бірыцкай з паднараўчанскай Плянты, які напісала яна на 380-годдзе вёскі на ўскраіне Белавежскай пушчы, што цяпер славіцца штучным залівам. А дабрацца з ваяводскага Беластока сюды не так проста, хаця Семяноўка ў суседнім — Гайнаўскім павеце — не менш знакавае ад Белавежжа месца на турыстычнай карце не толькі Беласточчыны. Прыватызаваныя ПКСы цяпер не ходзяць не толькі ў Семяноўку не толькі ў выхадныя, але і Нараўка папраўдзе адцятая ад Беластока, хаця гміна плаціць сто тысяч злотых ваяводскай управе ПКС. А ўжо пра цягнікі няма чаго гаварыць, пра пасажырскія, бо ўжо дзясяткі гадоў *поезд ужо не прэ* з Гайнаўкі на Цісоўку. На чыгуначным мосце, што лукам пралягае *над возерам,* едуць па шырокіх пуцях цягнікі з *Расеі* з таварамі, якія неабавязкова павінны праязджаць па тэрыторыі *зялёных лёгкіх Польшчы.* Але нараўчанскія аўтары, якія пад канец леташняй зімы сабраліся былі ў семяноўскай святліцы-бібліятэцы (сярод іх была і вядомая рукадзельніца Галіна Бірыцкая), усхвалялі тутэйшую красу і ўдалае жыццё: *Семяноўскі заліў хвалямі турыстаў прыцягае, прыгажэйшага месца не знойдзеш нідзе...* Галіна, якая ў апошні час узяла ў рукі і пяро, і сёння прыедзе на вечарыну, сарганізаваную Гмінным цэнтрам культуры ў Нараўцы ў асобе Галены-Марыёлі Рээнт, тутэйшай Карпючанкі, цяперашняй яго дырэктаркі, і семяноўцамі. А сабралася зноў паўнюткая зала слухачоў і гледачоў не толькі з Семяноўкі, але з усіх вёсак Семяноўскай парафіі. Убачыць можна, між іншым, Марусю Мацкевіч з Баравых, юбілярку ў гэты дзень (родам яна з пушчанскага Масева), і тарнапольцаў, і медзвядзёўцаў, і бабігорцаў. Можа, прыцягнула некаторых і тое, што будзе выступаць са сваімі вершамі суседка Валянціна Мядзведзь, альбо і тое, што разам з ёю прыехала Аня Шайкоўская з Радыё Рацыя? „Ой, будуць дыскусіі пры радыё-злеўні!" — жартавала з гэтай нагоды найлепшая дыпламаваная знаўца тутэйшай гісторыі Райка Матысюк. Пасля паказу фатаграфій з сямейных збораў вяскоўцаў і хутаран прагучаў верш у выкананні Галіны, адоранай гарачымі апладысментамі і заўвагамі (*праўдзівы верш, праўду піша!): Пакаленняў многа тут жыло, Семяноўцы 380 год мінула. Многа падзей тут збылося. Многім шчасце ўсміхнулася...*

Самаўрадавая святліца, у якой цяпер і бібліятэка, якія вядзе Галіна Панкоўская, аздобленая беларускімі ўзорамі і саламянымі павукамі, практычна не зачыняецца.

— Я тут працую, — кажа Галіна Панкоўская. — Але не толькі я прыкладваюся да таго, каб тут развівалася культура, каб міла было прыйсці ў сваю святліцу.



Расказвае Славамір Кулеша

Вось тут мая каляжанка, Марыя Шыманюк, якая ўдзяляецца грамадска. Марыся ёсць на кожны заклік. Трэба памагчы — Марыся тут як тут. Мы сёння сустракаемся на падвядзенні праекта „Гісторыя Семяноўкі ў аб'ектыве". Мелі мы ўжо адну адслону гістарычных фатаграфій, у маі. Было тады столькі людзей, што святліца ўсіх не змясціла. Здымкі паказваюць нашы вёскі, наша жыццё, нашы турботы і радасці — вяселлі, хрысціны, будаванне дамоў, школы, капліцы...

— Гэта цыклічнае мерапрыемства другое, а папраўдзе чацвёртае. Бо ўжо ў маі былі дзве сустрэчы, якія згуртавалі багатую публіку, — дадае Марыся Шыманюк. — Летам, на Панцеляймона, быў конкурс пра сучасных людзей — „хто ёсць хто ў Семяноўцы", і конкурс на верш пра Семяноўку. Выйграў верш Мікалая Варанецкага з Альхоўкі, які стаў песняй „Нараўчанак".

— А ў нас святліца аздоблена выцінанкамі, звязанымі з беларускай культурай. Тут кожны вобраз мае сваё значэнне. І саламяныя вырабы — гэта вырабы тых, хто бывае ў нас, хто хоча чамусьці навучыцца, — цешыцца кіраўнік святліцы. — Найбольш у нас моладзі, якая хоча іграць на камп'ютарах. Найбольш нам дапамагае Аляксандр Грыка. Можна сказаць, што Шурык здзяйсняецца ў светліцовым жыцці, у праграме *Latarnik,* адкуль адкрыў магчымасці інтэрнэту. Ён, чалавек на інваліднай калясцы, мае кантакт з усім светам... Збіралі мы малюнкі Янкі Мароза, выдатнага народнага мастака з Семяноўкі, адкрылі яго нанова, зрабілі выставу, якая вісела нейкі час. Маю гэтыя яго малюнкі, якія можа праз нейкі час прадставім шырэйшай публіцы. Маляваў Мароз нават карціны ў царкву. А гэтыя здымкі, якія прынеслі нам семяноўцы, пакуль збяром на дысках, а пасля можа будзе і выдадзены альбом...

— Ну, асвоіў я ўжо камп'ютар! — кажа Шурык Грыка. — Можа яшчэ не так бегла, але ўжо спраўляюся. Можа быць. Свет адкрыты, можа напалову, так сказаць. Я цяпер на калясцы, 23 гады меў выпадак на чыгунцы, там я рабіў. Добра, што ёсць святліца, што магу займацца тут....

*Перагрузачная станцыя тут была, Семяноўка шчасцем расцвітала. Работы тут было ўсім, хто не ленаваўся, ніхто не скажа, што работы не хапала.*

На экране паказваюцца здымкі, сабраныя з хатніх архіваў. Ад здавайны, праз ваеннае ліхалецце, праз „школьныя гады" калі дзейнічала школа спачатку па хатах, пасля ў аграмаднай цаглянай „тысячагодцы", што пасля стала непатрэбная для навучання. Бо штораз менш тых, хто памятае, хто распазнае твары. Мностава здымкаў наводзяць і слязу, і смех праз слёзы. І тое фота раз'езджаных калаін на возера, з таблічай „Семка", бо ўся назва вёскі не змясцілася...

— Вельмі дзякую за тое, што вы так людна прыбылі на нашу прэзентацыю, — дзякавала Галена-Марыёля Рээнт. — І ўжо шукаючы здымкаў, ужо ўспаміналі. Здымкаў было вельмі шмат. Мы выбралі ад кожнай асобы, якая нам іх прынесла, па некалькі. Такой вёскі якая была, ужо няма, і хочам паказаць маладым людзям гісторыю, і дробны побыт, як усё было.

— О, гляньце, як калісь хавалі бульбу ў ямах! — зварухнулася зала. З кожным здымкам сабраныя распазнаюць старых і маладых жыхароў ваколіц. — Гэты ямы былі на Забагонях. А тут мы едзем на Падкапоўскае! А о, тут, Марыёліна мама! Тут Геня Сухадола, а тут Олька Барэчкава... А там Вася Гарасімаў... А гэтая маладая панна — Геня Бірыцкая. А хто сядзіць? — Ёлкаў Коля. О, па роварах пазналі! А тут — Марцінкавы. Чаканская. А тут *васеле* — як кароны калісь трымалі. Хто вянчаўся — Геня Бірыцкая, Грэсева. А тут *мане нясут,* у бэціку! О, Надзя Бойкава. І якія маторы былі. „Камарчык!" А тут маем шэсцьдзесят шосты *рочнік*! Ліля Тарасевіч — катора? Друга! Алінка Кардашова. Ліля Бірыцкая. Ева Лёнікава, з кошычкам. Ваня Кавалёў. Аля з Прэнтаў. А тут — як закладалі капліцу на могілках. Вучні 1978 года нараджэння — тут ужо і каляровыя здымкі... А хто доіць карову? — наша Магда, на Дворыску. Гэта Ганкі нявестка. Пакуль прыйшла да мяне ў прымы, мусіла навучыцца карову даіць... А пан войт пазнае, дзе яго сакратарка? Якое *аліганцкае* адзенне. А тут памятка з калектыву „Сямяне". Ганка, пазнаеш? Так, мой Міхал. Гжэсь Трусевіч, Уладак Бірыцкі, Юрак Засім. Юрка Кіслы. А там Юрак з Усадзьбы... Дзякуем Яраславу Бірыцкаму, Ганне Грэсюк, Мікалаю Кардашу, Анне Савіцкай, Марыі Мароз, Славаміру Кулешы, Яўгену Бірыцкаму, Аліне Мацюк, Галене Здануншык, Яўгінні Баброўскай, Паўлу Матысюку, Галіне Бірыцкай, Раісе Матысюк, Аляксандру Грыку, Яўгену Шыманюку, Анне Засім, Галене Рээнт, Юрку Шыманюку...

— Усіх тут маю, — паказвае жмут здымкаў з хатняга архіва Славамір Кулеша. — А тут, у маёй хаце, у якой я жыву — сястра мая выходзіць замуж, 1959 год. Прыгожы здымак — усе дзяўчаты ў белых суконках, у белых туфельках. Я тое вяселле, калі я быў малы, памятаю, як мы ішлі вуліцаю ў царкву.... Многа ўжо адышло дзяўчат і мужчын, якія тут ёсць на здымках. І мая сястра, і яе муж ужо не жывуць. Рана адышлі, такі лёс. А гэты здымак — з пяцідзясятых гадоў, першы дырэктар школы Юзаф Навіцкі са сваімі выхаванцамі. Пасля быў ён кіраўніком школы ў Скупаве, пасля — начальнікам гміны ў Нараўцы. А тут нашы маладыя леты, мы тут у пятым класе, у грамадскім пачыне будуем агароджу пры школе... Тата даў мне тады каня, паехалі мы па палях збіраць каменне... А тут школьная спортпляцоўка. Стаяў там, памятаеш, калісь стары калодзеж, была там нядобрая для піцця вада. Тут мы завальваем калодзеж, новы выкапалі з другога боку школы... Вясна, тады возера яшчэ не было, бачыце, як тады моцна вылівала рэчка Нарва — яна даходзіла аж пад школьную ліпку, рыба падплывала аж пад спортпляцоўку... Вада ападзе ў Нарве, заставаліся абрэчкі, мы хадзілі басаном і выбіралі рукамі тую рыбу... А тут наша вуліца — ліпкі, брук... Гэтага ўжо няма...

— *Вадасховішча каля Семяноўкі разліваецца, рыбы тут многа — не пералавіць. Рыбаловы едуць па рыбу цэлымі днямі, а некаторыя едуць проста адпачыць,* — пералічвала паэтэса перавагі юбіляркі. — *Семяноўка, развівайся, і расці багата — добры пакідаеш за сабою след — каб наступныя пакаленні жылі ў дастатку яшчэ многа, многа лет!*

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

ISSN 0546-1960